–Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
1
МАЯ
1992 г.
№ 18 (3636)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 50 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)


## ПЕРШАМАЙ— СВЯТА ПРАЦОЎНАГА ЧАЛАВЕКА



Перагарнуў лісток календара, пазначанага чырвонай лічбай — 1 Мая, і, дальбог, у галаве адразу загучала песня, што многія гады ўспрымалася нібы пазыўны першамайскіх святаў: «Утро красит нежным цветом стены древнего Кремля, просыпается с рассветом вся советская земля...» Відаць, прайшоў век гэтай песні. І Крэмль страціў свой застрашлівы сімвал, і зямлі савецкай у тым звыклым для нас сэнсе няма ўжо.

Першамайскае свята, дзень міжнароднай салідарнасці працоўных — дзецішча сусветнага камуністычнага руху, народжанае пасля вядомых чыкагскіх падзей, дзе 1 мая 1886 года адбылася сутычка паліцыі з дэманстрацыяй мясцовых рабочых. «Майскія падзеі ў ЗША паказалі працоўным усяго свету неабходнасць баявога згуртавання пралетарыяў усіх краін для барацьбы з капіталістычным ладам» (ВСЭ, т. 32).

«Згуртаваныя пралетарыі» на чале з бальшавікамі ўзялі ўладу ў семнаццатым годзе, знішчылі эксплуататарскія класы, а райскага жыцця краіна «рабочых і сялян» так і не дачакалася. Сёння, калі апала жалезная заслона (і з вачэй таксама), мы ўбачылі, што, бадай, нідзе ў свеце не быў так прыгнечаны працоўны чалавек, як у краіне перамогшага сацыялізму.

...Сёння ў Мінску, у іншых гарадах Беларусі не будзе традыцыйных святочных першамайскіх дэманстрацый. Відаць, у многіх гэта выкліча сум, нават нешта падобнае на настальгію па былых часах. Што ж, іх можна зразумець, гэта ў пэўным сэнсе было нашым жыццём. Ды толькі хай не забываюць яны, што гэтае веснавое свята ад пачатку савецкіх гадоў было ператворана ў прапагандысцкае мерапрыемства з усімі ўласцівымі для таталітарнага рэжыму рысамі — складаннем парткомамі «чорных» спісаў тых, хто ўхіляўся ад удзелу ў дэманстрацыі, адмаўляўся несці партрэты правадыроў, лозунгі і плакаты з напісанымі на іх камуністычнымі заклікамі, не крычаў «ура» ў час праходжання міма ўрадавых трыбун.

Той, былы першамай, фальшывае, казённае аблічча якога занатавана на адным з гэтых здымкаў, адышоў у мінулае. А з намі хай будзе свята Працы — так цяпер называецца, згодна з пастановай Вярхоўнага Савета Беларусі, дзень Першага мая.

Так — дзень Працы, дзень працоўнага чалавека-стваральніка!

**М. З.**



SOS!

# Дапамогі просіць... Шпілеўскі

Але, той самы Павел Шпілеўскі, пра якога ў «ЭЛІМБЕЛе» гаворыцца, як пра беларускага і рускага этнографа, пісьменніка, журналіста, публіцыста і тэатральнага крытыка. Дасведчаны ж чытач, канечне, ведае, што П. Шпілеўскі родам з вёскі Шыпілавічы цяперашняга Бабруйскага раёна, а з 1846 года выступаў як даследчык і папулярызатар этнаграфіі, гісторыі і фальклору Беларусі. Найбольш вядомая праца нашага знакамітага земляка «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі», што складаецца з серыі артыкулаў, апублікаваных у славутым «Современнику» ў 1853—1855 гадах, а пасля, у 1858 годзе, выдадзеных у Пецярбурзе асобнай кнігай.

Памятаецца, даўні руплівец на ніве нацыянальнага Адраджэння Генадзь Кісялёў у сваёй кнізе «Пошукі імя» прысвяціў П. Шпілеўскаму нарыс «..Я жыў з імі, я рос сярод іх», у якім упершыню падрабязна асэнсаваў асобныя моманты жыцця і дзейнасці П. Шпілеўскага, зазначыўшы пра яго асноўны твор: «Гэта вельмі багатая гістарычнымі, этнаграфічнымі, краязнаўчымі звесткамі праца ўжо не раз разглядалася і, пэўна, не раз яшчэ будзе разглядацца ў нашай навуковай літаратуры». І тут жа дадаў: «Магчыма, нашы выдаўцы збяруцца нарэшце перавыдаць яе цалкам».

Дык вось — выдаўцы знайшліся. Каб «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі» прыйшло да нацыянальнага чытача, парупіліся ў рэдакцыі краязнаўчай літаратуры (загадчык Л. Круглова) выдавецтва «Полымя». Кніга павінна вось-вось убачыць свет, прычым стаць другой (першай быў «Люд беларускі» М. Федароўскага) у новай міжвыдавецкай серыі «Літаратурныя помнікі Беларусі» (асноўная нагрузка па выпуску яе кладзецца на «Мастацкую літаратуру», але там кнігі згаданай бібліятэкі яшчэ на падыходзе).

Здавалася б, усё ідзе як мае быць. Але ўся справа ў тым, што над выпускам кнігі «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі» навісла пагроза і... П. Шпілеўскі вымушаны прасіць дапамогі. Выданне гэта аб'ёмнае, два дзесяткі выдавецкіх аркушаў. Папера і ўсё астатняе рэзка падаражала. У «Полымі» ўжо гатовы нават адмовіцца ад цвёрдай вокладкі, але і гэта становішча не ратуе. Кніга ж выходзіць у арыгінале па-руску, а, значыць, дзяржаўную датацыю атрымаць не можа.

Фармальна быццам усё правільна, але ж кніга П. Шпілеўскага — пра Беларусь і ў абарону беларускасці. Напісана яна чалавекам, які любіў усё беларускае. Гэта бачна хоць бы па таму, як ставіўся ён да нашай мовы (цытую па артыкуле Г. Кісялёва): «...беларуская мова такая самастойная, такая характарыстычная ў археалагічных і філалагічных адносінах, паданні, павер'і, казкі яе такія арыгінальныя, да таго поўныя першабытнай, старажытнай паэзіі і славянарускай, што, пры цяперашнім кірунку і развіцці у нас філалогіі і археалогіі, становіцца неабходным даследаваць і вывучаць галоўны прыстанак старажытнай рускай славяншчыны...»

Гатовая карэктура кнігі П. Шпілеўскага чакае свайго лёсу. Становішча маглі б уратаваць нейкія 100 тысяч рублёў. Тады можна было б і вокладку цвёрдую зрабіць, і шматлікія ілюстрацыі пакінуць. Дык, можа, знойдуцца на Беларусі спонсары.

Просіць дапамогі Павел Шпілеўскі!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**адзін з будучых чытачоў кнігі «Падарожжа па Палессі і Беларускім краі».**

ФОТАФАКТ



21 красавіка ў мінскім Доме літаратара адбыўся «круглы стол», прысвечаны праблеме гісторыі Беларусі ў навукова-пазнавальнай літаратуры для дзяцей і юнацтва. Арганізатарам нарады стала секцыя літаратуры для дзяцей і юнацтва Саюза пісьменнікаў Беларусі, прыцягнуўшы да ўдзелу ў ёй пісьменнікаў, гісторыкаў, прадстаўнікоў выдавецтваў, навукоўцаў з рэспубліканскага Скарынаўскага цэнтра.



25 красавіка ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача адбылося надпісанне дагавору паміж ТЮГам Беларусі з аднаго боку і тэатрам горада Мангейм (Нямеччына) — з другога. Вынікам дагавору стане шчыльнае супрацоўніцтва абодвух тэатраў, узаемны абмен акцёрамі дзеля стажыроўкі, гастрольныя паездкі беларускага тэатра ў Нямеччыну, і нямецкага — па Беларусі.

**У. ПАНАДА.**

# Хітрыкі са сцягам

**Гарадскія ўлады Менска апошнім часам вельмі здольныя на ўсялякія нечаканыя выдумкі. Яшчэ ніхто і ніколі, напрыклад, не здагадаўся вывешваць падчас святаў нацыянальныя сцягі ў выглядзе ...некалькіх асобных палотнішчаў. А нашы мясцовыя ўладары, здаецца, перахітрылі самога Саламона.**

**Бачыце, як усё проста: прыходзіць свята, і на вулічных слупах з'яўляюцца тры сцягі — два белыя і адзін чырвоны пасярэдзіне. Які бязмежны плюралізм! Калі ты свядомы беларус, дык можаш здагадацца, што гэта — нацыянальны бел-чырвона-белы сцяг. Калі ты прыхільнік камуністычных ідэй — можаш любавацца чырвоным сцягам, не зважаючы на астатнія. А калі ты перакананы прыхільнік правых поглядаў — любуйся белым колерам...**

**8 сакавіка ўлады пайшлі яшчэ далей. Праспект Машэрава месцамі быў упрыгожаны чырвонымі сцягамі, месцамі — толькі белымі, а дзе-нідзе красаваліся ўсе тры. Ходзяць госці па нашай сталіцы і не надзівяцца такому наватарству.**

**З трывогай чакаю майскіх святаў. Што мы ўбачым на вуліцах сталіцы незалежнае Беларусі? Якое яшчэ вынаходніцтва?**

**Янка АСОТ.**

г. Менск.

З ПОШТЫ «ЛіМа»

# МНЕ СОРАМНА ЗА ВАС, БЕЛАРУСЫ!

Мне падабаюцца намаганні «Літаратуры і мастацтва» зрабіць з беларусаў людзей. Але сумняваюся, што з гэтага штонебудзь атрымаецца. Прачытаў я ў «ЛіМе» (№ 13, 27.03.92 г.) разважанні студэнта гістфака Уладзіміра Лобача «Бо слова было ад Бога» і мяне ўзяў жах. Чатыры (аж чатыры!) студэнты (напэўна ж з некалькіх тысяч!) Беларускага (не Мінскага, Магілёўскага ці Гомельскага, а **Беларускага**) дзяржаўнага універсітэта размаўляюць на... беларускай мове. Што ў беларусаў свая мова не ў пашане, я ведаў. У адзін з прыездаў у Мінск мне давялося спытаць (на беларускай мове) маладога хлопца, як знайсці вуліцу Матусевіча, і пачуць у адказ: «Чэво?» Калі ж я паўтарыў пытанне на рускай мове, то зноў пачуў: «Так бы и гаварыл». Аж вушам маім стала балюча ад гэтага глухога «г» і цвёрдага «р». «За што ж ты, хлопча, так не паважаеш родную мову і гэтак здзекуешся з рускай?» Ён не зразумеў мяне. А мая пляменніца мне пасля сказала: «Ты, дзядзечка, мог і па «мордзе» атрымаць. Ён жа лічыць, што «гаварыт па-русску». Самае цікавае, што мастак, прафесар Васіль Шаранговіч размаўляе на роднай мове, не саромеецца таго, што яна «мужыцкая», «дзеравенская» (давялося сустракацца з В. Шаранговічам і яго сябрамі-выкладчыкамі акадэміі мастацтваў). Ці мо для гэтага і патрэбна, не, не вышэйшая, а якаясь «найвышэйшая» адукацыя? Як у маёй бабулі, напрыклад, якая была непісьменнай, а мову родную ведала ці не лепш за «зацікаўленага ў «беларусізацыі» прарэктара БДУ П. Брыгадзіна, бо калі б ён ведаў гэтую мову, то не бачыў бы «высокаінтэлектуальных людзей... па-за сувяззю з мовай». Як жа далёка шматлікім беларусам да рускай мовы! Жанчына, мая супрацоўніца, пасля наведання Мінска, сказала мне: «Ваш белорусский язык — это испорченный русский». «А ты и слышала именно испорченный русский», — адказаў я і прачытаў некалькі строф (колькі памятаю) з паэмы Я. Купалы «Курган». Пачуўшы беларускую мову, яна здзівілася: «Зачем же они это делают? Лучше хорошо разговаривать на родном языке, чем так ужасно на русском».

Вам, грамадзяне беларусы, не даспадобы гэтая думка рускай жанчыны? Вам больш па густу будзе другое «высказывание» аб вашай (ці не вашай?) мове, якое я пачуў у аддзеле беларускай літаратуры кніжнай крамы ў Мінску. Да прыгожай дзяўчыны-прадаўца падышоў прыемны знешне хлопец і сказаў: «Здравствуй! Что читаешь? Не понимаю, как можно читать на этом варварском языке?» «А я читаю и уже начинаю понимать, и мне очень нравится». Размова ішла на чысцюткай рускай мове. Я зразумеў, што і дзяўчына, і хлопец не беларусы. Але якія супрацьлеглыя адносіны да мовы народа, сярод якога ім давялося жыць! Цікава было б ведаць, ці знайшлі яны, маладыя і прыгожыя, але такія розныя, «агульную мову» ў жыцці?

Гадоў трыццаць назад мне давялося абараняць годнасць беларусаў кулакамі, калі я пачуў: «Белорусы? Паршивый народ! Предатели!» Калі б мне давялося зноў сустрэць таго чалавека, я ўжо ў бойку не кінуўся б, пэўна. Сапраўды, як жа інакш назваць народ (напэўна, адзіны такі ў свеце), які адмаўляецца ад таго, што і характарызуе яго як народ — ад роднай мовы. Не, не звацца людзьмі народу, якому падабаецца яго рабскае становішча. «Добра» сказаў пра беларусаў афіцэр, які раней служыў у Эстоніі, а цяпер на Беларусі: «В Эстонии было легко материально и тяжело морально. В глазах каждого эстонца написано: у вас сила и мы подчиняемся ей, но вы оккупанты, вы разрушаете нашу культуру, наш быт, наш язык. В Белоруссии на нас, русских, молятся, преданно смотрят в глаза, готовы лизать наши сапоги». Цяжка было слухаць такое. Я не прызнаўся, што я беларус.

Цяпер я добра разумею, чаму з сарака пяці тысяч рускіх афіцэраў, якія служаць на беларускай зямлі, толькі каля двухсот чалавек згодны вярнуцца дамоў («Российская газета», № 73, 30.3.92), стаття «Беларусь формирует вооруженные силы»). Кім яны будуць у Расіі? «Обыкновенными гражданами». А сярод рабоў можна быць «господином» і лічыць, што закон аб мовах «противоречит международным нормам и по сути является дискриминационным по отношению к др. населяющим Беларусь этносам». («Знамя юности», 1.02.92 г.). Тых, хто крычыць пра «дискриминацию», я хачу спытаць: «Скажите, господа (товарищи?), сколько белорусских школ, училищ, институтов, университетов в России для шести сотен тысяч (а может и миллиона) проживающих в России белорусов? Сколько вышеперечисленных заведений для пяти миллионов украинцев, проживающих в России? То же самое для других народов? И кто же такой националист? Тот, кто на своей родной земле стремится сохранить свое национальное, или тот, кто, незванный, пришел в чужую страну и пытается навязать (иногда силой) народу этой страны свою культуру, свой язык, обычаи; сделать народ этой страны «интернационалистами без национальности (с белорусами вы уже преуспели)? Ни к чему, господа-товарищи, страховка. Рабы сами упорно сопротивляются вашей «дискриминации».

А ці ведаеце вы, беларусы, як «клапоцяцца» ў Расіі аб тым, што ўтрыманне 100-тысячнай нацыянальнай арміі будзе «не по силам белорусским налогоплательщикам». А 45 тысяч афіцэраў, не лічачы паўмільёна, ці мо болей, салдат «по силам»? Не, справа не ў тым, што «по силам» і што «не по силам». Аб якой незалежнасці можна гаварыць, калі на тэрыторыі суверэннай дзяржавы знаходзяцца адзіныя (дзякаваць Богу, згадзіліся на «аб'яднанне») узброеныя сілы. Памятаеце, якімі «незалежнымі» былі Венгрыя, Чэха-Славакія, Польшча, пакуль там былі ўзброеныя сілы СССР, па колькасці ці не большыя за нацыянальныя арміі? Вось у чым справа. Гэта ж сцвярджае і «Российская газета» (№ 74, 31.03.92 г., статья «Семейный очаг нельзя строить на кладбище»): «И только активные действия России, защищающей права русскоязычного (новая национальность?—**А. С.**) населения, несущей ответственность за судьбу СНГ...»

Ваш Старшыня Вярхоўнага Савета С. С. Шушкевіч сказаў, што «куды больш карысна было б, відаць, атрымліваць інфармацыю па каналах Сі-эн-эн, чым тэндэнцыйныя навіны і каментарыі з Масквы». У тым выглядзе, як плануецца, сапраўды не патрэбна гэта тэлекампанія «Останкино», бо яна «предполагает обязательное знание русского языка» народамі незалежных дзяржаў. Ну куды вы дзенецеся ад Расіі? Каб слухаць Маскву, трэба ведаць мову, а ведаць некалькі моў ой як не хочацца. Лепш адмовіцца ад роднай...

Паважаны Станіслаў Станіслававіч! Вам, як нікому другому, зразумела, што закону аб мовах можа дапамагчы толькі дзяржава. Ці не прапанаваць Вам пры чарговай сустрэчы з кіраўнікамі іншых незалежных дзяржаў садружнасці, каб гэта самая кампанія «Останкино» вяла свае перадачы на мовах карэнных народаў незалежных дзяржаў? Слухаю ж я радыё «Свобода» на рускай, беларускай, украінскай і польскай мовах.

А мо вам, беларусам, пры чарговай замене пашпартоў адмовіцца ад сваёй нацыянальнасці, як гэта зрабіў беларус «по паспорту» В. Аксючыц, кіраўнік не ведаю якой партыі ў Расіі? Ён лічыць, што няма такой нацыянальнасці і такой краіны, як Беларусь. Ёсць «северо-западный край» Расіі. Праўда, «северо» (Прыбалтыка) ужо стаў сапраўды незалежным, бо сумеў зберагчы сваю мову, свой гонар, сваю годнасць. Ну што ж? Будзеце «западным краем».

Сумна, спадары!

Не, я не за тое, каб вы з непавагай адносіліся да рускіх ці іншых людзей. Я за тое, каб у першую чаргу паважалі сябе.

**Антось САДЛУЦКІ,**
**беларус з Расіі.**

г. Сергіеў Пасад.

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

**Васіль САХАРЧУК**

### Бачу сябе між маўклівых

Бачу сябе між маўклівых,
спрабую спасцігнуць
іх сутнасць,
каб зразумець:
хто яны?

«Хто вы? —
пытаюся ў іх. —
Мудрацы,
у якіх за плячыма
ўсе дарогі пазнання і веры
ці звычайныя вандроўнікі,
здарожаныя згрызотамі
жыцця?»

А яны абыяка маўчаць.

Толькі дзядуля,
сівы, як аблачына кудзелі,
у адказ варухнуў мне вуснамі:
«А ты хто такі?
Хіба не бачыш — мы спім...
І не кожны асмельваецца
нас трывожыць...»

І я адказаў:
«Мне можна,
бо я залатая сярэдзіна,
якой хацелася павучыцца
ў мудрых,
але цяпер я баюся
стаць абыякім,
бо зразумеў:
навошта задаваць пытанні
іншым,
калі адказаць на іх
ты можаш сам?
І мяне гэтак цягне на сон...»

### У лабірынце

Імкнуліся да праўды,
а не можам адмыцца ад хлусні.

Праглі святла,
а жывём у цемры.

Хацелі дастатку,
а трапілі за мяжу беднасці.

Дагаджалі дурням,
а разумных закідвалі камянямі.

Дбалі пра народ,
а ператварылі яго
ў насельніцтва.

Молімся на Феміду,
а задыхаемся ў бяспраўі.

Жыццё навыварат,
трагедыя абсурду.

Бясконцы бег на галаве
у цёмным лабірынце.

Віна ж за ўсё, як і раней,
ляжыць на мёртвых,
і тыя на ўвесь свет варочаюцца
ў дамавінах.

●

Хто глупстваў не рабіў,
таму й няма нагоды
вініць сябе ва ўсіх зямных
грахах
і ў тлуме дзён душэўнай
непагоды
выветрываць нуду
на жорсткіх скразняках.

●

Век пражыў у гаме-шуме
і адкрыў сабе на глум:
слова, сказанае ў тлуме,
і само не больш, чым тлум.

●

Вады нямала ў ступе стоўк
мой крывадушны век:
быў друг-таварыш чалавек,
а стаў і друг і воўк.

Чый вырак і чыя віна,
не варт душой крывіць —
каторы год ідзе вайна
з крывёй і без крыві.

Вавёрка ў коле — люд
для ўлад,
і німб — ярмо пакут,
віры старых і новых звад
штурхаюць люд на люд.

Ізноў цікуе ўласны след
Гамора і Садом,
ператвараючы ўвесь свет
у звар'яцелы дом.

Спыніўся, перарваўся час,
і руху ў ім няма...
Няўжо мы і на гэты раз
не вырвемся з ярма?..

ЧАС І МЫ

# «ПРЫРОДА—ЁМІШЧА ДУХОЎНАГА РАЗВІЦЦЯ НАРОДА І ПЕРАД ЁЙ, ЯК У ХРАМЕ, ВАРТА ЗДЫМАЦЬ ШАПКУ...»

**Так лічыць наш суразмоўнік, галоўны рэдактар часопіса «Родная прырода» Валерый ДРАНЧУК. Кароткая даведка: ураджэнец Стаўпеччыны, у 1974 г. скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Прайшоў школу раённага друку, быў карэспандэнтам «Звязды», працаваў у прэс-службе Савета Міністраў. На пасадзе галоўнага рэдактара «Роднай прыроды» працуе год.**

**Ад пачатку рэдагавання часопіса новы рэдактар узяў курс на яго творчае абнаўленне, ачалавечанне, як скажа ён сам, зместу выдання. Тое давалася і даецца заўжды нялёгка, але ўжо за год можна прасачыць творчую эвалюцыю «Роднай прыроды», заўважыць змену націску — са справаздач на самога чалавека, яго маральнае пачуванне і месца ў прыродзе.**

**В. Дранчук — апантаны прыхільнік абагаяўлення прыроды, разумення нашай непарыўнай лучнасці з ёю. Прырода нас заўжды ўратуе — толькі трэба ўмець яе слухаць...**

**— ВАЛЕРЫЙ Аркадзьевіч, год на пасадзе галоўнага рэдактара адзінага экалагічнага ў рэспубліцы часопіса — тэрмін, мусіць, дастатковы, каб пытацца ў рэдактара пра творчае бачанне канцэпцыі свайго часопіса, праблемы і — традыцыйна — перспектывы далейшага развіцця выдання?**

— Мусіць, тэрмін сапраўды дастатковы... Але пачну з таго, што мы... заплываем брудам. Падыдзіце да вакна і правядзіце пальцам па шкле... Ваколіцы у звалках і сметніках. З радыяцыяй спім. Студні ператвараюцца ў адстойнікі сельгасхіміі... Бруд падступае, прабачце, да самага горла, і мы ўжо заглытваем гэту д'ябальскую твань.

І вось уявіце, што ў такі час мушу пісаць ідыёцкія лісты высокаму дзяржаўнаму спадарству, іду з кабінета ў кабінет, пераконваю, што «Родная прырода» — адзіны экалагічны часопіс на ўсю рэспубліку, што не варта секчы сук, на якім сядзім. На жаль, дагэтуль не знайшлося галавы, каб вырашыць праблему, не міргнуўшы вокам,— вярнуць доўг прыродзе хаця б у выглядзе поўнай датацыі на «адзіны экалагічны». Ды не: спадар з «чарнобыльскага» дэпартамента месяц не ставіў пячаткі пад дагаворам паміж заснавальнікамі і рэдакцыяй. Адкуль мы ведаем, кажа, што вы будзеце друкаваць... Тым часам на прапаганду Дзяржкамчарнобылю выдзелена тры мільёны рублёў. А ў рэспубліканскі бюджэт ідуць грошы за сотні мільёнаў штрафаў штогод.

Варункі, як бачыце, не самыя спрыяльныя, каб «РП» абвяшчаць часопісам нумар адзін. Але я не магу ўяўляць яго інакшым (не першым), бо ёсць прыярытэты, якія пры любых, нават самых цяжкіх варунках трэба прыкмячаць і «выцягваць». Бяда ж не толькі ў тым, што станчаецца азонавы слой: станчаецца і слой людзей, якія любяць прыроду...

**— Такім чынам, экалогія — гэта толькі шлях да ЧАЛАВЕКА, лёс якога павязаны з прыродай, гэтаксама як лёс этнаса павязаны з ландшафтам?**

— Не толькі экалагічныя выданні, але й значная частка іншых, на маю думку, добра завінаваціліся перад чытачом: не ўслухоўваліся ў ягоныя інтарэсы, працавалі, скарэй, на **адчалавечанне**, чым дзеля **ачалавечання** супольніцтва. Не адно пакаленне журналістаў і чытачоў выхоўвалася на сентэнцыі, што газета або часопіс павінны «ўзнімаць вострыя праблемы». Я працаваў у раённым друку, у «Звяздзе», і ведаю цану гэткай «гаспадарчай» дзейнасці прэсы: журналісты літаральна падмянялі адпаведныя структуры, «па шыю» ўлазячы ў вытворчую калатнечу, дзе парадку не было ніколі. Але ж тое была псеўдапраблемнасць, бо жывы чалавек, праўда жыцця заставаліся дзесьці побач, некранутымі.

Сіндром такой павярхоўнай, будзённа-гаспадарчай праблемнасці жыцьме па сёння. У «РП», напрыклад, я прыйшоў, ведаючы пра трывалыя традыцыі ведамаснай прыродаахоўнай праблемнасці, якія ў часопісе відочна дамінавалі. Моц тых традыцый за прайшоўшы год працы давялося зведаць з лішкам. Хаця, здавалася б, зрынуты ідэалагічны прэс, можна «ўключаць» новае, гуманістычнае мысленне, хрысціянізавацца патроху і г. д. Дзе там! Фанатычная прагнасць «праблем» па-ранейшаму зыходзіць ад некаторых калег і заснавальнікаў часопіса, якія дагэтуль не разумеюць, што часопіс — не пасяджэнне калегіі Дзяржкамітэта па экалогіі, не нарада, што гэта розныя ўзроўні мыслення, і вытворча-тэхналагізаваны выклад не павінен падмяняць гуманітарна-экалагічную публіцыстыку.

У прыродзе, як сказаў філосаф, усё звязана з усім, і прычыны яе «прыроды» хвароб трэба шукаць глыбей — у скалечанай маральнасці, «растленні» душ, у парушанасці пракаветных традыцый і правіл быцця. Публікацыі павінны несці канцэптуальнасць і праблемнасць, але не тэхналагізаваную, а — чалавечую, светапоглядную. І часопіс — гэта культура, а не фанатызм, гэта, калі хочаце, кафедра нацыянальнай духоўнасці, інтэлектуальнага патэнцыялу, эстэтычна-ўнармаваных адносін да прыроды і маці-зямлі. Пагартайце нашы часопісы, «РП» у тым ліку — ці шмат такіх матэрыялаў знойдзеце? Вунь калегу па рэдакцыі (які, дарэчы, уславіў прыроду у кнізе «Красота — рядом») давялося ледзь не тыдзень пераконваць, што нізка багдановічаўскай лірыкі (надзвычай экалагічнай) не пярэчыць кірунку часопіса, а толькі ўзбагачае яго... Гэтаксама трэба было доўгі час даводзіць некаторым супрацоўнікам, што ў біблейскіх апавяданнях для маленькіх не столькі «рэлігіі», колькі экалогіі, і што серыя фотааркушаў Рымантаса Дыхавічуса «Кветкі сярод кветак» — не «голыя бабы», а чароўная адкрытасць, пачуццёвасць, матыў жыцця. Тое ж і з тэкстамі цудоўных ды прызабытых песень «Рэчанька», «Явар і каліна»... Вось вам узровень разумення творчай задачы.

**— ...І ён жа — «ціхая ўлада магчымасцей», у дадзеным выпадку творчых?**

— Але ж калі не мяняюцца стэрэатыпы — мяняюцца людзі, супрацоўнікі рэдакцыі, адбываецца абнаўленне штату. І гэта не «новая мятла мяце па-новаму» — гэта дыктуецца часам і найперш турботамі за лёс Адраджэння. А ён, гэты лёс, знаходзіцца ў руках майго пакалення. Прынамсі, я веру, што «РП» можа стаць папулярным агульнабеларускім часопісам, для таго маюцца падставы. Ідэя «РП» як агульнабеларускага чытэльнага часопіса вельмі натуральная і перспектыўная, і «гуманітарызацыя» зместу, перанос акцэнту з ачышчальных збудаванняў на памярцвелыя, «змеліяраваныя» душы нашы,— прынцыповы пачатак такога рэфармавання «Роднай прыроды». А гэта работа «ўсур'ёз і надоўга».

Увогуле справа не ў папярэдніках, а ў наступніках, спаткаемцах. Трэба забяспечыць часопісу перспектыву, закласці трывалыя, жыццяздольныя кірункі на 5—10 наступных гадоў. Зараз часопіс тэматычна разбіўся як бы на дзве палавінкі — чалавек у прыродзе (вопыт суіснавання) і прырода ў чалавеку (экалогія душы). Наш нядаўні госць шаноўны У. Юрэвіч акрэсліў змест часопіса як лірыка-драматычны. Падаецца, вызначэнне трапнае: рай на ўзмежку пекла.

**— ...А крэда новай «Роднай прыроды» — змаганне за «чалавека прыроднага», пошукі новага, надбіялагічнага і надіндустрыяльнага журналізму?**

— На пошукі такога журналізму мы пайшлі ва ўмовах і пэўнага імператыву. Паглядзіце, колькі пустотаў зеўрыць з усіх куткоў нашай беларускай інфармацыйнай прасторы, калі адкінуць рускамоўныя маскоўскія выданні «Свет», «Природа», «Энергия», «Наука и жизнь», «Химия и жизнь», «Вокруг света», «Наше наследие», «Наука и религия», «Юный натуралист», «Техника молодежи» і іншыя? Гэта далёка не поўны пералік выданняў, у якіх выразна, на ўсе галасы гучыць экалагічная, прыродаахоўчая тэма.

Калісь шмат таго было і ў нас. Гады мо са два таму «ЛіМ» пісаў, колькі самавітых беларускамоўных часопісаў мы згубілі пад зоркаю Краіны Саветаў. У тым ліку такіх, якія разам з намі сёння маглі б падзяляць місію асветнікаў і заступнікаў роднае прыроды, спрыяць экалагічнаму Адраджэнню Беларусі, змагацца сапраўды за «чалавека прыроднага» — але і чалавека адухоўленага. Так сталася, што гэтая важнейшая частка духоўнага працэсу легла сёння на кволыя (пакуль што) плечы аднаго нашага часопіса. І з гэтай прычыны таксама нерацыянальна пільнавацца ведамаснай тэматыкі, гнаць «праблемы», не спрабуючы глыбей зазірнуць у саміх сябе і ў навакольны свет, у Космас духоўных ідэалаў.

Я веру, што часопіс менавіта такім і стане. Веру і ў тое, што наша інтэлігенцыя — навуковая, пісьменніцкая, самая элітарная — заўважыць і падтрымае нашы пошукі, скажа на старонках часопіса сваё слова. Сёння гэта ці не самая прыдатная трыбуна, каб прамаўляць да публікі.

**— Слухаючы вас, Валерый Аркадзьевіч, у свядомасці малюецца наступная ідэальная мадэль «Роднай прыроды»: гэта часопіс, каторы імкнецца да адэкватнасці чалавечай натуры,— збольшага інфармацыйны, філасофска-эсэісцкі, багата і змястоўна ілюстраваны, трошкі эратызаваны; разуменне жыцця і прыроды як неадрыўных частак адной, боскай рэальнасці, якая ёсць найвялікшая таямніца дзеля спасціжэння журналістам...**

— Усё гэта разам я назваў бы ўзроўнем творчай задачы. І з вашага, Юрась, боку — трапяткім яе разуменнем. Сапраўды, боская рэальнасць. Сапраўды, таямніца. Над зместам у часопісе стаіць ужо згаданае філасофскае выслоўе: «Усё звязана з усім».

У прыродзе ўсё мудра паяднана: біясферная лучнасць. Толькі мы ігнаруем гэты агульны закон быцця, мо таму зараз нам так «няймецца» ў маральным пачуванні. Арыстоцель сказаў, што прырода мае на мэце добрае. А Скарына казаў, што людзей найперш яднае ідэя ўсеагульнага дабра. Цудоўны грунт дзеля засваення праграмных мэт нашага часопіса: яднацца ў дабрыні прыроды і ў дабрыні да прыроды, адчуванні тае боскае рэальнасці і адвечнага ладу...

Разам з тым я не хацеў бы падацца тут аднабокім, прыхільнікам адных толькі медытацый. Усё «медытацыйнае» аніякім разам не выключае жорсткіх рэаліяў, што складваюцца ў паняцце «экалагічная галоснасць». Аднак жа яе выклад зазвычай цяжкі, груваcткі. Мусіць, каб пазбегнуць гэтага, слушна было б узвысіцца над будзённым, паглядзець на Зямлю і людзей быццам з вышыні — адтуль лепей бачна. Напрыклад, можна ў рацэ бачыць не толькі біялагічную з'яву, але й з'яву вышэйшага парадку — ёмішча духоўнай плыні народа і да т. п. Прырода вельмі канкрэтная для кожнага чалавека. Прырода фарміруе і фармуе людзей і этнасы. Напрыклад, ва ўласнай знешнасці заўважаю ўплывы тае рэчкі, ля каторай вырас... Прырода адмысловы стваральнік, толькі мы не навучыліся бачыць яе працы.

Да спасціжэння прыроды, яе зломаў і стрэсаў, яе драм і трыумфаў нельга падступацца з газетнымі клішэ, бо яны не кладуцца на жывую душу. Дарэчы, да пошукаў нас падштурхоўваюць і лісты чытачоў, у якіх аўтары кажуць пра тое ж, аб чым гаворым зараз мы,— толькі кажуць больш проста.

**— З гэтага года «РП» пачала друкаваць біблейскія апавяданні, дый сам імідж часопіса (рубрыкацыя і да т. п.) «хрысціянізаваўся». Што гэта — водгулле часу ці прынцыпова-творчы выбар?**

— А вы ўспамінаеце вялюгінскае: «З усіх сабораў ёсць сабор...»? Пагартайма народны каляндар — якая тут багатая этнічная спадчына рытуалаў і свят, дзе хрысціянскае непарыўна нітуецца з прыродным. І ў гэтым нашы продкі выглядаюць цэласнымі, гарманічнымі людзьмі. Міжволі хочацца гарнуцца да гэтай унармаванасці як да чыстага вытоку.

Было б недаравальна, грэшна пакідаць гэтыя аспекты ўбаку. Для нашага выдання «хрысціянізацыя» бачыцца прадуктыўным шляхам выхавання агульналюдской маральнасці і адпаведных адносін да прыроды... Але разумеецца і тое, што ўзвесці крыж пры дарозе — яшчэ не значыць пасяліць у душах чалавечых хрысціянскія запаветы. Крыжоў сёння не бракуе, толькі **што** робіцца вакол гэтых адзнак памкненняў да Бога? На жаль, часта яны выглядаюць дагледжанымі астраўкамі пасярод запушчанага асяроддзя.

Мы добра засвоілі правіла здымаць шапку, калі ўваходзім у царкву. Каб жа такое пачуванне было пры стасунках з прыродай!.. Але святар выхоўвае свой прыход, гэтаксама, бадай што, і «РП» будзе выхоўваць сваё чытацтва.

**— Зноў жа з пачатку года чытач бачыць на разваротах «РП» фотатворы Р. Дыхавічуса з серыі «Кветкі сярод кветак».**

(Працяг на стар. 12).

**Як мы і прадбачылі, артыкулы прафесара А. Лойкі і невядомага аўтара, які падпісаўся псеўданімам Юрка Лявончык («ЛіМ» за 20 сакавіка г. г.), мелі рэзананс у навуковых і літаратурных колах. Першым водгукам стаў артыкул кандыдата філалагічных навук Вінцука Каваленкі, які мы і прапануем вашай увазе.**

Вінцук **КАВАЛЕНКА**

# Сам-насам з часам

ТРЭБА аддаць належнае рэдакцыі «ЛіМа», якая змясціла побач, на адным развароце, артыкулы «З настальгіяй па тэорыі» А. Лойкі і «Правінцыя» Ю. Лявончыка. Іх свядомая палемічная завостранасць калі і не падбухторвае да спрэчкі, то прымушае задумацца аб стане сучаснага літаратуразнаўства, ды і літаратуры наогул.

Здаецца, дыскусія наспявае з усёй непазбежнасцю, і ёсць зразумелая заканамернасць у тым, што яна пачынаецца ў «пасляперабудовачныя» часы, калі з вачэй спадаюць шоры «адзіна правільнага вучэння». Праўда, нішто не новае пад месяцам. Памятаецца досыць шырокая і доўгая дыскусія менавіта па праблемах крытыкі і літаратуразнаўства, што разгарнулася ў перыёдыцы ў канцы 70-х — пачатку 80-х гадоў. Выказваліся тады яе ўдзельнікі на старонках друку даволі энергічна, але так і не прыйшлі да якіх-небудзь канструктыўных рашэнняў. І сёння, у перыяд адноснай свабоды думак, існуе рэальная небяспека «загаварыць» праблему, ператварыць палеміку ў агледзіны, дзе не столькі на людзей глядзяць, колькі сябе паказваюць. Вядома, што ў нашым «постсавецкім» грамадстве любяць больш гаварыць, чым слухаць.

«Толькі трэба шчыра сказаць самім сабе: у нас пакуль што няма мастацка і філасофска значных твораў у сучаснай літаратуры — на ўзроўні сусветнай», — піша Ю. Лявончык, магчыма, са свядомым жаданнем эпатаваць чытачоў. Можна не сумнявацца, што ў значнай часткі гэтых самых чытачоў словы аўтара артыкула выклічуць справядлівае абурэнне. У нас няма літаратуры?! А Р. Барадулін, В. Быкаў, А. Дудараў (і гэтак далей)?

Так, гэта ўсё ёсць. Але няўжо няма ў беларускай літаратуры «Івангардыстаў», якія ўсё ведаюць, усюды друкуюцца, якім даюць усе ганаровыя прывілеі, але якіх ніхто не чытае? Ёсць і менш знакамітыя паэты і празаікі, кнігі якіх як ляжалі, так і ляжаць у кнігарнях. З гэтай нагоды звычайна скардзяцца на засілле рускай мовы і літаратуры. У свой час такім пісьменнікам добра адказаў Пушкін. Назваўшы сярод «прычын, што замарудзілі ход нашай славеснасці», «агульнае ўжыванне французскай мовы і занядбанне рускай», ён дадаў: «Усе нашы пісьменнікі на тое скардзіліся, — але хто ж вінаваты, як не яны самі». Пастаўце на месца французскай рускую мову, на месца рускай — родную беларускую—і ўсё стане ясна. Сапраўды, лепш не скажаш.

На наш погляд, вельмі важна, чым прадыктаваны словы Ю. Лявончыка. Калі жаданнем выклікаць знешні эфект, пахіснуць аўтарытэты, не варта прыдаваць ім вялікага значэння. Калі ж шчырым жаданнем зрабіць нашу літаратуру і крытыку адметнымі ад усіх, лепшымі, чым яны былі, то мусім дараваць аўтару яго палемічны запал і згадзіцца, што многае тут патрабуе абнаўлення. Тым больш, што горкія папрокі ў адрас сучаснай літаратуры — справа не новая. Прыгадаем пушкінскія словы, сказаныя ў 1824 годзе: «У нас яшчэ няма ні славеснасці, ні кніг». Амаль праз стагоддзе з рускім паэтам пераклікнуўся беларускі. «Беларускіх вершаў у нас яшчэ не было...», — пісаў Багдановіч у 1915 годзе, калі былі добра вядомы вершы Багушэвіча, калі ўжо выйшлі з друку «Жалейка», «Гусляр», «Шляхам жыцця» Купалы, «Песні жальбы» Коласа.

Ні Пушкін, ні Багдановіч, зразумела, і ў думках не трымалі абразіць ці прынізіць сучасную ім літаратуру. Проста яны — кожны ў свой час — стаялі перад неабходнасцю ствараць новае, у чымсьці пачынаць з нуля. А сёння—хіба ж не такі час, калі трэба многае пачынаць? Не той рубеж, калі неабходна «атрэсці прах з нашых ног» і ісці наперад? Калі мы гэтага не зробім, то будзем асуджаны чытаць рыфмаваную публіцыстыку замест паэзіі, сурагат «дзеравенскай» прозы замест сапраўдных твораў, а крытыкі будуць мармытаць абрыдлыя формулы: «яскравыя вобразы», «грамадзянская пазіцыя», «блізкасць да народа»..

Зразумела, што трэба зыходзіць з рэальных набыткаў і магчымасцей беларускай літаратуры, што не след увесь час паўтараць манілаўскае «вось добра было б, калі б...» І ўсё ж хацелася б бачыць нашу спадчыну больш багатай, сучаснасць больш разнастайнай, а эксперыменты — больш цікавымі і раскаванымі. Скарбніца роднай мовы настолькі багатая, што нямала яшчэ адкрыццяў і творчых знаходак можна з яе здабыць. Магчыма, наша мова з яе фанетычным багаццем, разгалінаванай міфалагічнай асновай, шырокімі магчымасцямі «гульні» са словам (выкажам крамольную думку) дасць нам беларускі мадэрнізм.

Што датычыцца крытыкі, трэба прызнаць: хапала і кампліментарнасці, і неаб'ектыўнасці, ды і проста непрафесійнасці. Зрэшты, хваробы гэтыя ўласцівыя не толькі нам. Вось што піша амерыканскі вучоны, заснавальнік «архетыпнай крытыкі» Н. Фрай: «Крытыка сустракае асаблівую перашкоду ў асобе тых, хто пусціўся ў гэты занятак, не адчуваючы аніякага да яго прызвання, і таму, хай сабе нават несвядома, у нейкай ступені зацікаўлены ў падтрымцы тэарэтычнай бездапаможнасці крытыкі» («Вопросы литературы», 1991, № 9—10).

Найбольш занядбаным у тэарэтычным плане — тут Ю. Лявончык мае рацыю — аказалася наша параўнальна-гістарычнае літаратуразнаўства. З найвялікшым піетэтам гаварылася аб уздзеянні на Беларусь Расіі — М. Клімковіч у 50-я гады сваю кніжку так і назваў: «Аб жыватворчым уплыве рускай літаратуры на беларускую літаратуру» (1955). Зразумела, што найбольш «жыватворчым» быў уплыў «вялікага пралетарскага мастака» — і з'явілася манаграфія В. Івашына на рускай мове «М. Горкі і беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя» (1956). У час «адлігі» адбыўся праўдзівы выбух у славянскім параўнальным літаратуразнаўстве — з'яўляюцца кнігі і артыкулы Н. Конрада, Д. Маркава, А. Бялецкага, Д. Дзюрышына. У нас бледным водбліскам на гэту «ўспышку» была... брашура В. Барысенкі і В. Івашына «Роля рускай класічнай літаратуры ў развіцці рэалізму беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» (1963). Праўда, потым пачалі выходзіць у свет працы Р. Бярозкіна, В. Гапавай, А. Лойкі, але тэарэтычны ўзровень беларускай параўнальна - гістарычнай навукі аб літаратуры пакідае жадаць лепшага і на гэты дзень.

Наша крытыка была ўсім, акрамя сябе самой: біяграфіяй, грамадска - палітычным каментарыем і нават проста пераказам тэксту. Але неяк не хочацца згаджацца з Ю. Лявончыкам у тым, што «і наша літаратуразнаўства, і наша бягучая крытыка таксама правінцыйныя». Не павернецца язык назваць Я. Карскага ці І. Замоціна правінцыяламі ў літаратурнай навуцы. Выдатнымі прафесіяналамі былі І. Навіна і А. Бабарэка. А калі браць бліжэй да нашага часу, успомняцца інтэлектуальнасць і энцыклапедызм Р. Бярозкіна, натхнёнасць і тонкая інтуіцыя М. Стральцова, напружаная і ўсхваляваная публіцыстычнасць А. Адамовіча.

Ды і праца суседа Ю. Лявончыка па лімаўскай старонцы ў свой час успрымалася як «ціхі бунт» супраць пануючай ідэалогіі, супраць догм «адзіна вернага вучэння». У кнізе «Беларуская паэзія пачатку XX стагоддзя» (1972) А. Лойка пратэставаў супраць звужанага падыходу да творчасці класікаў беларускай літаратуры, згодна якому «дарэвалюцыйныя Купала, Колас — песняры цяжкага паднявольнага жыцця працоўных мас; Купала, Колас савецкага часу — песняры шчаслівага жыцця народа...» Закрануты краевугольны камень ідэалагічнай дактрыны, і фразу можна расцаніць як намёк на тое, што пры ўладзе Саветаў жыццё атрымалася не зусім шчаслівым. Да таго ж даследчык дазволіў сабе нападаць на «самога» Горкага за яго сумна вядомыя словы аб тых жа Купале і Коласу («так прымітыўна-проста пішуць»). І ўсё гэта—у пачатку 70-х!

Тэма пераасэнсавання класікі падоўжана А. Лойкам у лімаўскім артыкуле. Цяпер ужо не намёкамі, а прама піша аўтар аб зрушанасці эстэтычных крытэрыяў праўды і мастацкасці, аб перакосах у вывучэнні гісторыі літаратуры. Рэчы называюцца сваімі імёнамі. Для нас Купала ці Колас — «ахвяры таталітарызму, трагічныя фігуры нацыянальнай літаратуры». Такімі яны, прынамсі, былі ў 30-я гады, калі вымушаны былі «каяцца» і ствараць «культавыя» вершы. Дарэчы, існуе цікавы пункт погляду, згодна якому «некаторыя купалаўскія вершы ў гонар Сталіна гучаць выразнай, нават не вельмі прыхаванай іроніяй. І, як гэткія, можна ўважаць іх за вершы антысталінскія!» (Станкевіч Ст. Янка Купала. — Нью-Ёрк. 1982).

Сёння існуе рэальная пагроза кінуцца ў другую крайнасць, зрабіць з Купалы, Коласа, Багдановіча **толькі** барацьбітоў за нацыянальнае вызваленне (гэта можна зразумець, бо ў цяперашняй палітычнай сітуацыі нацыянальная ідэя — балючае месца беларускай інтэлігенцыі). Да гэтага, скажам, і прыходзіць Ст. Станкевіч: «Купалаўская творчасць — гэта ў мастацкіх словах і вобразах сфармуляваная ідэя беларускага нацыянальнага Адраджэння ды поўная праграма нацыянальна-адраджэнскага й нацыянальна-вызвольнага руху». Ст. Станкевіч нават лічыць, што Купала быў блізкі да ідэй «бяскласавага беларускага грамадства». Ад «рэвалюцыйнага дэмакратызму» да «нацыянальнага камунізму» — ад такіх «ракіровак» у каго хочаш галава пойдзе кругам!

І таму слушнымі здаюцца словы А. Лойкі аб значнасці «агульначалавечага, агульнафіласофскага, рэфлексійна - духоўнага зместу». Гэта сапраўды найбольш надзейны і трывалы сродак распазнання мастацкай вартасці не толькі класікі, а і сучаснай літаратуры.

Дыягназ, які ставіць А. Лойка сучаснай літаратурнай навуцы, надзвычай несуцяшальны. Тут, здаецца, А. Лойка і Ю. Лявончык найбольш збліжаюцца ў сваіх меркаваннях. І рэцэпты выратавання нашага літаратуразнаўства ў прынцыпе аднолькавыя — арыентацыя на сусветны ўзровень (невыпадкова нават цытаты з «Забытага шляху» Багдановіча амаль супадаюць). Але той жа Багдановіч у тым жа артыкуле гаварыў пра «нацыянальную душу» народа, якой заўсёды адпавядае «свой асаблівы склад (стыль) творчасці». «Ёсць ён і ў нас, беларусаў, — пісаў далей першы нацыянальны літаратуразнаўца, — і мы мусім звярнуцца да яго, каб уламыць што-небудзь сваё ў скарбніцу светавай культуры». Думаецца, гэтыя словы можна аднесці не толькі да мастацкай літаратуры. Калі ўвогуле і асабліва ў рускамоўных крытычных, літаратуразнаўчых і публіцыстычных творах Багдановіч схіляўся, па назіраннях М. Мушынскага, да культурна-гістарычнай школы, то ў такіх артыкулах, як «Забыты шлях», «Глыбы і слаі», «За тры гады», ён, безумоўна, імкнуўся да стварэння свайго ўласнага стылю, крытычнай манеры. «Светавы вопыт» быў улічаны, у артыкулах улоўліваюцца традыцыі Пушкіна і Бялінскага, але галоўнае для аўтара — уласны пункт погляду, уласнае меркаванне, выказаныя ўласнай мовай.

І таму цяжка пагадзіцца з А. Лойкам, калі ён, спасылаючыся на Дж. Х. Мілера, прыводзіць салідны спіс кірункаў, якія пажадана ўвесці ў беларускае літаратуразнаўства і крытыку. Уявіце: цэлы арсенал метадаў і методык, створаных на працягу дзесяцігоддзяў у Амерыцы і на Захадзе, ляжа на кволыя плечы нашай літаратурнай навукі. Яе, гэту навуку, нельга лічыць простым прыдаткам да мастацкай літаратуры, але ўзнікнуць і падняцца да пэўнага ўзроўню сама па сабе, без апоры на творы тых ці іншых пісьменнікаў яна не можа. У гісторыі ж нашай літаратуры лакун, пустот, на жаль, пакуль што больш, чым твораў (бо сапраўдны літаратурны твор заўсёды займае пэўную нішу, і мы ўжо не можам уявіць, што яго там магло б і не быць). Ці быў бы Бялінскі без Пушкіна? Мусіць, быў бы, але ўжо **не такі.** Існаваў бы структуралізм (дарэчы, прадбачаны Багдановічам), калі б не было шэдэўраў літаратуры XX стагоддзя? Магчыма, існаваў бы, але меў бы куды больш бледны выгляд.

Беларускай навуцы трэба вучыцца нанава рабіць першыя крокі, як хвораму пасля цяжкай аперацыі. Ёй нядаўна выдалілі злаякасную пухліну вульгарнага сацыялалізму. Гэта сапраўды было нядаўна, бо яшчэ ў 70-я і 80-я лічылася, што Багдановіч і Бядуля, напрыклад, з аднаго боку, упарта ішлі да рэалізму, а з другога—усё ж не дасягнулі... не зразумелі... не падняліся да вышынь... А самыя тонкія нюансы ў творчасці Купалы ці Коласа тлумачыліся набліжэннем ці паражэннем рэвалюцыі 1905 года.

Сёння гэтага, дзякуй Богу, ужо няма, і наўрад ці варта ўпадаць у роспач з-за адсутнасці «моцнай», «адзінай» тэорыі. Так, нам яшчэ далёка да яскравай разнастайнасці канцэпцый і падыходаў, але існавалі і існуюць старыя, як свет, рэчы, ад якіх і патрэбна танцаваць: эстэтычная каштоўнасць твораў, іх філасофская, духоўная глыбіня, эстэтычна - выхаваўчы аспект, гуманізм (самы звычайны, ніякі не «пралетарскі»), нарэшце, творчая інтуіцыя даследчыка — гэтых крытэрыяў на першай пары дастаткова. А калі сапраўды прыйдуць новыя часы і новая літаратура — будзе і новая крытыка, і літаратуразнаўства. Ды, зрэшты, не кірункамі багаты літаратурны працэс (які ўсё ж існуе, хаця ў апошні час гэта модна адмаўляць), а найперш асобамі. Мандэльштама не вымерыш акмеізмам, Бядулю не звядзеш да імпрэсіянізму, Шклоўскага не абмяжуеш рамкамі фармалізму. Мінавала пара валявых рашэнняў і калектыўных думак у пісьменніцкай працы, і кожны застаецца сам-насам з літаратурай і часам.

**Аднойчы я прачытаў у Валянціны Аксак:**
можа з лісціка
слабым праклёнам
капне сок
на нервы
паэта

**Гэты пяцірадковы напамін пра датклівае быццё паэта можа быць інтрадукцыяй да «Паненскага вечара», «Успення», «Вербнай ночы на Кальварыі». Да іншых вершаў паэткі...**

**Усё, што мы любім, дзеля чаго жывем, — вельмі датклівае. Магчыма, без нас, без нашай любові яно было больш моцным, але мы яго палюбілі і зрабілі датклівым... Паэзія В. Аксак менавіта пра гэта, пра любоў, што, страціўшы юны радасны неспакой, набыла ўжо непераадольную трывогу.**

**Успомнім, як местачковае дзяцінства, апынуўшыся ў чужых сенцах, трапляла «ў ноч» сярод дня, як яно прызвычайвалася да невядомага змроку.**

**Гэтак жа трэба прызвычаіцца й да новых вершаў В. Аксак. Яны не з «лёгкіх» твораў, што адразу кладуцца на памяць; яны не для запамінання — для слухання. Гэта водгулле тужлівай гаворкі, што даходзіць да нас з фальклорнай даўніны, з хрысціянскага апостальства.**

**Па-чытацку не ўсё я прымаю ў паэзіі В. Аксак. Тое ж наследаванне матывам Н. Арсенневай здаецца мне з'явай і запозненай, і малакарыснай.**

**Магчыма, памыляюся.**

**Зрэшты, чытач, калі не з часоў Гамэра, то ўжо, пэўна, з часоў Апалінэра займеў сабе неад'емнае права памыляцца гэтульні ж, колькі памыляецца й паэт.**

**Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК.**

**Валянціна АКСАК**



## Вербная ноч на Кальварыі

**Калее Кальварыя.
Шклом выкшталцоным
кусты і капліцы
над схованкай целаў
усцелены Мараю.**

**Зацемнена зарыва,
толькі ігліцы
апалых зарніцаў
абралі ахвяраю
крыж прыканцовы
і цемечка ценю.**

**Увенчаны цернем
пазначаны Трасцаю,
цень прызначэнне
спаўняе пад нашчаю
поўняй алтарнаю.**

**Калее Кальварыя.
Курчацца ў лужыне
сцятыя ўдала
цяжкім амбалам,
загойстраным сцюжаю,
галоўкі канваліяў.
Калее Кальварыя.**

## Страта хатняе кветкі

**А сёлета каляднік не зацвіў.
А мо яго пастой цяпер цвілы,
ці то энергія ад сцен ідзе благая.
Былых гаспадароў ні словам не благаю,
ды ўсё ж каляднік мой у доме іхнім
не зацвіў.**

**А ў кветцы гэтай сонечны прыліў
да маіх вокнаў і душэўных сіл
на Каляды ў сутонне прыплывае,
як заміж свечак яе знічкі прамаўляюць,
што хутка ўжо смугу ўскалыша
Серафім.**

**А сёлета каляднік не зацвіў.
Прыкмета гэтая мо й не зусім благая,
бо ўжо і Грамніцы капяжом адгралі,
і пост на гурбы шчыранька праліў
густыя кроплі мясаедных він,
і ўжо вясну дзяўчаты прагукалі,
ды ўсё ж пакутніцкіх зазімкаў сорак
цяжкі мне напамін.**

**Але сябе ўзнясу на падваконца,
каб упусціць у змрочны покуць сонца.
Няхай жыве радзінная нязграбнасць
і вольнага падзення радасць!
А да Вялікадня мне новыя каралі
каханы папярэдне падарыў,
і мо ад гэтага ўсе іншыя дары
кудысьці з гандлявальняў прападалі
з Піліпаўкі.**

**І носіць па дв[illegible]
вялізны грак на крыллях карані,
якія сок у кветкі не пагналі.**

## Успенне

**Кружляюць журавы,
тугà чырвоным лістам
на дні ружовыя
зляцела.**

**Строма стыне выспа,
і вір пражорлівы
глядзіць зазірыста
на цела,
шлючы з прадоння літасць.**

**А ў німбе жвірыстым
карчы скрыжаваны,
старчак з сярэдзіны.
Ён цэляй
абраў мае маністы.**

**Кружляюць журавы,
дзень Божы цэлы
пяюць курлыста,
каб я загледзела
між іх
абраз Прачыстай.**

## Паненскі вечар

**Разбіты збан...
Аскелепкі,
як здані,
разбегліся
па цёмных
закутках...**

**Радзінную нязграбнасць ганіць,
таймуючы раптоўны жах
здарэння невыгоднага да ночы,
не бачачы ў тым знак прарочы!..**

**Блюзнерыць,
паглядаючы на покуць,
з чаканнем,
што адтуль калматы скочыць,
збярэ збанок,
між рожкамі пастсвіць,
і дасць зарок
тут баль свой
больш не правіць!..**

**Маўляў, збанок
збянтэжыў марна знакам,
над ім вянок
із руты шчэ не плакаў.**

**Калі й разбіўся ён у гэты вечар зборны,
то новы дзень усцеле цуд-вузорам,
не там, дзе мята ўсё звівае туга,
нібы сядло для ездака папруга,
а там, дзе ружы знак на небе зорным
спаміж лілеяў белых сцёгнаў.**

**А раніца мудрэйшая за вечар,
таемнасць зліжа промень свежы,
здранцвелым думкам шлях прарэжа,
не бавячыся, выспеліць выснову
пра прызначэнне годнае абновы.**

**Лілея й ружа
крыжам не
спляліся,
збанок ад
дружак
з мяты
вялым лістам
аскелепкамі
выслаў
цвёрды
дол...**

## Багач

**Дажынкі пахнуць дажджамі
і рошчынай свежаю ў дзежцы.
За жніўнем сваты прыджгалі,
гарбуз пакаціўся па сцежцы.**

**А бохан круты і крохкі —
раскроіць нельга на чвэрці.
Плывуць па шчоках кроплі,
брудны рукаў — не ўцерці.**

*Здаслаў Пархута*

# ГРАНІЦА

ЭСЭ



## I

СЦЯЖЫНА бегла праз лес.

Над верхавінамі дрэў плыло стомленае сонца, а тут, у зацені, стаяла нясцерпная духата. У дадатак дакучалі мухі-танцоркі. Яны роем віліся над галавою, ліплі да твару, настырна лезлі ў вочы. Я ўжо быў не рады, што вырашыў скараціць шлях—дабірацца да шасейкі не кругавой дарогаю, а напрасткі. Яшчэ дужа даймала смага. Адчапіў ад пояса біклажку, а вады ў ёй—як змачыць губы. І мо таму, калі нарэшце выбраўся на прагал і па той бераг лугавінкі, пры ўзвышшы, убачыў прыземістую хаціну, узрадаваўся, як дзіця.

Гаспадар хаціны сустрэў мяне насцярожана. Ён сядзеў на парозе, дасмальваў самакрутку і маўчаў. Калі недакурак пачаў сіпець і страляць агнём,—кінуў пад ногі, расцёр абцасам гумовіка і прамовіў:

За давер даверам плацяць, за шчырасць—шчырасцю. І я не хаваўся:

— З Менску. Каторы дзень у палюддзі. Рызыкнуў зайсці вадзіцы папрасіць.

— Вадзіцы?—здзівіўся гаспадар і бытта ўзрадаваўся:—Няма! Прывезці не паспеў. А свае студні не маю. За жыццё ў пяцёх месцах капаў яе, але да вады не дастаў. Высока! У сяло езджу, у Віндзюны. Кіламетры за тры адсюль. Бітон на воз—і туды. На тыдзень хапае. Мне многа не трэба. Малако маю! Можа і пан-таварыш малака папіць. Хадзем у халупу!..

## II

«Халупа» дзеда Болеся прасторная, на дзве палавіны. Аднак скарыстоўвае толькі адну. Другая служыць як бы сенцамі. У жылой палавіне, пры ўваходзе, раскашуе хлебная печ. Упрытык да печы стаіць нешта падобнае на грубу, але не з цэглы, а з тоўстай бляхі.

— Мангалка!—перахапіў мой позгляд гаспадар.—Такія мы некалі рабілі ў Сібіры. З бочак залезных. Паставіш напапа, дзюрак наб'еш пры днішчы, напаліш—ого які дух стаіць! Імі, мангалкамі, толькі і саграваліся.

Ён паказаў на старую канапку пры акне:

— Хай пан-таварыш прысядзе. Я зараз.

І ступіў за парог, у другую палавіну.

Вярнуўся адразу ж, несучы цынкавае вядзерца, поўнае малака, і алюмініевы кубак. Паставіў вядзерца побач са мною, зачарпнуў з яго кубкам, прапанаваў:

— Хай пан-таварыш пап'е. І ў фляжку нальe, калі хоча.

Малако было гаркавым на смак і патыхала кароваю. Але я пахваліў. А ён бытта і не звярнуў увагі на тую пахвальбу, стаў рабіць самакрутку. Закурыў і, пускаючы сіні дым над сабою, прызнаўся:

— Пан-таварыш думае, што я ўсё аб сабе сказаў. Не! Пра граніцу, каб яна спрахла, толькі заікнуўся. І нічога не прамовіў, як яна мне жыццё папсула. Калі пан-таварыш не спяшаецца, то хай паслухае.

І стаў расказваць.

— З беларускага лесу ці з літоўскага пан-таварыш ідзе?

Я пацісную плячыма, не разумеючы пра што ён.

— А пра тое!—узмахнуў рукою гаспадар, бытта хацеў адпрэчыць мухтанцорак, якіх прывёў я з сабою.—Бо гэны во лес беларускі, а гэны во літоўскі.

Праз хвіліну дадаў:

— Хляўчук і лазенка, што лявей хлеўчука,—у Беларусі. Халупа з гародчыкам—у Літве. А граніца,—зноў узмахнуў рукою,—якраз па маім панадворку пралегла...

Раптам ён падняўся, зрабіў колькі крокаў ад парога і стаў тлумачыць:

— Во тут яна, граніца!.. Ступіш туды—на зямлісе беларускай апынішся. Зробіш крок туды—на зямлісе літоўскай будзеш.

Пачуўшы такое, я не ўтрымаўся:

— А самі вы хто? Беларус? Літовец?

Цяпер ужо ён пацісную плячыма і даверліва прызнаўся:

— Бацька літовец. Матка полька. З Пяткевічаў. Дома, як помню сябе, толькі па-беларуску размаўлялі. А нарадзіўся я, то кумы, не разабраўшыся толкам, запісалі ў касцёле мне назвіско не Яноніс—Аноніс. Болесь Аноніс!.. Было такое, калі яшчэ царызма тут правіла...

Ён зноў прысеў на парог:

— Зараз жыву адзін. Кабета мая, Леанорыя, апошнія гады ў дачкі Яніны, за шэсць вёрст адсюль, у Касіне... Іх у нас многа—ажно пяць штук. Ёсць Малая Касіна, Трэцяя Касіна, Вялікая Касіна... То Яніна ў Трэцяй Касіне. Дома працуе, а муж—трактарыстам. Сына маюць. Яму ўжо лят седэмнасце... А мая Лёня, Леанорыя, значыць, родам з-пад мястэчка Гудагай, з Беларусі. Чаму ў дачкі абіваецца? Хварэе. Невылечна. Усё ў Бога смерці просіць-просіць, а не дапросіцца... Я—тут, на сваім хутары кантуюся. А завецца ён, як і вёсачка, што па той бок граніцы, у Беларусі,—Кімяны... Каровіцу Кветку трымаю, кабыліцу Ляльку, сабачку Рудзіка ды котку Рыску. Чаму так назваў? Котка—рыскі на спінцы мае, сабачка—рудзенькі, кабыліца, сапраўды, прыгажуня, а каровіца—бытта ўся ў рамонках... Кветка надта любя Ляльку. І мяне. Ліжа, калі падыдзем.

Выклаў усё гэта гаспадар хутара і раптам спахапіўся:

— Аднак пан-таварыш адкуль будзе?

— У трыццаць дзевятым,—ліўся яго хрыплаваты, нібы прастуджаны, голас,—калі Сталін з Гітлерам знюхаліся і Польшчу дзялілі, тут, па маім панадворку граніцу праклалі. Каб хоць за гумном... Па панадворку! Слупы паставілі, дрот калючы нацягнулі. І атрымалася так, што хата (я ўжо казаў!) у Літве апынулася, а гумно—у Беларусі. Ды як мужыку без гумна? Там жа і сянцо, і саломка, і сячкарня... Стаў жаліцца. Начальства спісалася, на нейкі дзень знялі дрот, і я разабраў гумно. З бёрнаў хлявец паставіў, па гэты бок, ля хаты...

Пыхкаючы дымам, удакладніў:

— Належыць сказаць, што саветы хутары ад граніцы адразу знеслі. Людзей павывозілі некуды, а іхнія котлішчы зруйнавалі. Літоўцы—не трывожылі хутаран. Пакінулі, дзе хто жыў. Але няўвязка з зямлісай усё ж выйшла За дротам, па той бок граніцы, у саветаў, засталася і мая дзялка. Не многа. Усяго пару гактарчыкаў. То мне жонд прырэзаў ад маёнтка два гактарчыкі. Як бы за тыя, што адабралі, што за граніцаю апынуліся. Так я і жыў. Сам тут, а душа па той бок дроту. Бо гактарчыкі, што далі, не на роўным, а—гара-даліна, гара-даліна. І камянёў багата. Аднак радзіла і бульба, і жыта, і аўсец з ячменьчыкам, і проса, і грэчка. Гною ж валіў!.. Але хіба то жыццё было, пры граніцы? Усё адно як на патэльні сядзеў. То адтуль трывожылі,

то адтуль. Саветы ідуць уздоўж дроту і мацюкнуцца:

— Маёнтнік! Скора загонім і вас у калхоз!..

Гэта я, Болесь Аноніс, — і маёнтнік?

Літоўцы ідуць, заўважаць парушаны дрот і лаюцца:

— Бальшавіцкі паслугач! Каго пераправіў да саветаў?

Гэта я, Болесь Аноніс, — і бальшавіцкі паслугач?..

Гаспадар зноў майструе самакрутку, зноў пускае над сабою клубы сіняга дыму і, седзячы на канапцы, толькі па той бок вядзерца з малаком, доўжыць свой аповяд:

— І тут раптам Сталін зноў знюхаўся з Гітлерам. Саветы прыбралі на гэты раз да рук і Літву. І пачалі нас, тутэйшых, падаткамі душыць ды ў калхозы атабуньваць. Мы — упіраліся... Словам, дрот з панадворка бытта і знялі, а яна, граніца, засталася. Я вярнуць не мог ні тыя два гактарчыкі, ні адсунуць хлявец. Зноў жаліцца стаў, толькі ўжо савецкаму жонду. Але ого! І слухаць не слухалі. Казалі: граніца між рэспублікамі — ёсць граніца!..

Недакурак, як і тады, на парозе, начаў сіпець і страляць. Гаспадар таксама расцёр яго ботам і працягваў:

— А недзе праз год і вайна ўсчалася. Немец як бачыш тут апынуўся. Па сёлах стаў шастаць, па хутарох. Гвалтам забіраў усё — сала, хлеб, яйкі, масла. Хадзілі чуткі, што недзе выбіваў народ. Нас не чапаў. І мы працавалі, як і працавалі. Рабілі хлеб. У жорнах малолі збожжа і жылі паціху. Але аднойчы наляцеў немец і на мой хутар. Прыставіў руру да грудзей: пакажы, кажа, дарогу да сяла бліжэйшага, разблудзіцца пяможы... Што было рабіць? Павёў. У тыя ж Віндзюны. А вайна адышла адсюль, — нехта ўдаў мяне жонду, што я нібыта самахоць навёў немца на сяло. І мяне пачалі лавіць. Хаваўся па кустох, па лясох. Спужнуць у Літве — у Беларусь кінуся. У Беларусі спужнуць — я назад, у Літву. Дамоў толькі зрэдзь забягаў — бялізну змяніць, хлеба ўзяць. Гэтак да сорак восьмага, як той заяц, гойсаў па наваколлю. А тады ўсё ж паймалі. Скруцілі і ў горад павялі. Ты, кажуць, самахоць немца ў вёску прывёў! А я ж пад рураю, пад аўтаматам ішоў! Не паверылі. Кажуць: чаму не ўцякаў? Ага. Паспрабуй уцячы! З-пад руры?.. Словам, судзілі мяне. У Сібіру саслалі. Ажно на восем гадоў.

## III

Аднекуль са звонам убілася ў хату сіняя муха, зрабіла круг пад учарнелай, даўно не беленай столлю, кінулася да акна і, выцяўшыся аб шыбіну, пачала поўзаць па ёй, ледзь падаючы голас. Дзед Болесь толькі скоса зірнуў на муху, не рваў ніткі аповяду:

— Завезлі мяне да-алёка адсюль. Ажно ў Нарыльск. Там, пан-таварыш, прызнаюся табе, вельмі холадна. Да таго ж хлеб не родзе. А зямліса — багатая. І золата, і нафта, і вугаль — усё е, што хочаш. Толькі хлеб не родзе. Завозяць. А рабіў я не ў шахце — на будоўлі. Пасля — на жалязцы. Рэльсы ўкладваў, шпалы. Тую жалязку вялі ў кірунку Дудзінкі!.. Пазней пачалі ганяць па іншых лагерах. У адзін, у другі, у трэці... Было трудна. Есці ўвесь час хацелася. Картопля наша часта снілася, жыта. За ноч, бывала, увесь хутар свой абыдзеш. І гэтак душу растрывожыш!.. Потым, як графа якога, самалётам вывезлі ажно за тры тысячы кіламетраў, у Краснаярск. Там і дабыў тэрмін. Як час прыйшоў дамоў ехаць, то адразу і паехаў сюды. Зноў на сваю граніцу вярнуўся!..

Муха напомніла аб сабе, падала голас, і гаспадар хаты надзіва спрытна схапіў яе за крылцы, панёс да адчыненых дзвярэй. Вярнуўся на канапку і стаў расказваць далей:

— Тады, у пяцьдзесят шостым, пасля смерці Сталіна, многіх дачасна адпускалі. Як невінаватых. Ці змяншалі тэрмін. Вызванне было і мне. Я меўся яшчэ месяц часу дабыць. Але рашыў іначай. Пайшоў у лагерную кантору і кажу: паслухайце, граждане начальнікі! Мне адзін месяц застаўся. Дабуду і так. А вы маю долю аддайце таму, каму яшчэ быць тут і быць... Выслухалі граждане начальнікі ды гавораць: ладна, ідзі, дабывай да канца!.. Прызнацца, пан-таварыш, не ведаю, каму долю тую маю аддалі, гэта значыць, каму скасцілі гады. Нешта ніхто не казаў потым. А мо і скруціла начальства? Як думае пан-таварыш?

Што я мог адказаць яму?

А ён ужо дзяліўся іншым:

— Вярнуўся, значыць, дамоў і першае, што зрабіў, гэта перасунуў хлявок на старое мейсца, дзе некалі гумно стаяла... Жана за гады змарнела. Хутар зарос. Адны толькі соткі ля хаты выглядалі ніштавата. Бо Леанорыя ўвесь час на іх прападала. У калхоз яна толькі трошкі пахадзіла. За месяц зарабіла тры кілі жыта і болей не захацела таго заробку... Не пайшоў у калхоз і я. Здароўя не меў! Дахадзягаю ж вярнуўся. Кіль сорак важыў, не болей. А некалі да дзевяноста дацягваў. Во што са мною зрабіла Сібіра!.. Але рады быў і такому. Бо горай магло стацца. За суткі толькі ў нашым бараку па сем-восем чалавек мёрла. З зімна і з яды. Бо маразы там — ого, а яда — эт! Раз, помню, у маі пяцьдзесят градусаў стаяла!.. І туды, у тую халадэчу ды галадэчу, заганялі нашага брата. Без разбору. Ім абы рабочыя рукі схапіць. Абы сілу на будоўлю сабраць. Не глядзелі: вінаваты — не вінаваты. Калі хто ўдаў цябе — палучай Сібіру! На доўгія гады. Абы хто ўдаў...

Нечакана гаспадар хаты раскашляўся. Кашляў доўга, надрыўна. А закурыў — і суняў кашаль, і з нейкаю дзіцячай пакораю ў вачах зірнуў на мяне:

— За ўсё тое мне і пенсіі не даюць, — цішэй звычайнага прамовіў ён і пацікавіўся: — А ці праўда, што цяпер Сібіра таксама нібыта ў стаж ідзе? Кажуць, толькі паперу напісаць трэба. А куды? Каму? Пан-таварыш мо ведае, куды пісаць паперу тую?

Я не ведаў, і самакрутка пачала страляць часцей — бытта яловае палена ў грубе. Калі і гэты недакурак апынуўся пад абцасам, гаспадар, на здзіў мне, пахваліўся:

— Але я не бядую! Знайшоў спосаб зарабляць на хлеб. Скаціну лячу, людзей. Умельству гэнаму навучыўся па свеце ходзячы! Птушак не лячу. Фатыга велька, а толку мала. Калі што якое, — галаву на калодку і ўсё лячыва. І сам курэй-гусей не трымаю. Спакою не дадуць ні лісы, ні шашкі, ні каршукі. Адразу пакрадуць. Нават авец пазводзіў. Меў неяк атарку, то ваўкі наляцелі, ажно пяць ярачак парвалі. З-пад каровіцы, можна сказаць, узялі. Аднойчы Кветка з ланцуга нават сарвалася, а ўсё роўна не абараніла аўцу. Укралі!.. А каровіцу з кабыліцай і не думаю збываць. Мы як бы адзін аднаго падтрымліваем. Я іх, яны мяне. Без каровіцы з кабыліцаю не пражыў бы. І малако — паратунак для мяне. Калі тварагу натопіш, калі на кіслае паставіш — усё падтрымка. Бо чаго іншага няма за што і купіць. Хлеб толькі купляю, макаронаў якіх, крупаў...

— А людзей лечыце як, ад чаго? — выказаў я цікаўнасць.

Зірнуў на мяне дапытліва, але не ўтаіў:

— Скураныя хваробы лячу!.. Бывае, чалавека паб'е на «яблыкі», то я мазі звару, націранняў розных. І дапамагу ў бядзе. Дахтары потым цікавяцца: дзе вылечыўся? Адказваюць: у старога аднаго. Пытаюцца: а дзе жыве той стары? Не выдаюць. Кажуць: памёр ужо... Так што, пан-таварыш, да мяне за гэта ніхто не чапляецца... Праўда, неяк прыязджалі маёнтнікі, начальнікі калхозныя. Пахадзілі-пахадзілі вакол мае халупы, агледзелі хлявец, лазенку, лапінкі зямлісы, што засеяў, і махнулі рукою: маўляў, жыві, як хочаш!

— І я жыву! — зноў бытта пахваліўся гаспадар хаты і нечакана для мяне прапанаваў: — А хадзем-тко, пан-таварыш, пакажу свой «маёнтак»! Сэрца ўзрадуеш, пабачыўшы прыгажосць тую!..

## IV

Мы пакінулі хату. Гаспадар пастаяў нейкі час на граніцы, запытаўся:

— Куды пойдзем? У Беларусь? У Літву? Беларусь ніжэй, к лугавінцы, Літва — на ўзвышшы. Адтуль, з узвышша, лацвей агледзіны рабіць.

І мы пайшлі ў Літву.

Адразу ж за хатаю да нашых ног сталі хіліцца кветкі — белыя, чырвоныя, сінія, жоўтыя, бурачковыя. Бытта хто знарок разаслаў перад намі каляровы кілім. Траплялася шмат і пазёмак. Яны сáма набіралі чырвань, сáма наліваліся сокам. Аноніс ішоў паперадзе, зрываў на хаду ягадзіны, кідаў у рот і тлумачыў:

— Зямліса гэная, можна сказаць, нічыйная. Ні калхозная, ні мая. Але я берагу яе! Вунь бачыць пан-таварыш гару велькую і гару нізшую. Аднойчы, калі цягнулі новую дарогу, прыехалі сюды і хацелі разабраць гэныя горы на жвір. Я не даў. Стаў паперад экскаватара і не даў. А то папсавалі б зямлісу!.. А на гары нізшай, на самай хрыбціне, я пракапаў канаву на паўсотню метраў даўжынёю. Атрымаўся бытта кар'ерчык. Вясною вада снегавая сцякае туды ад лесу, і як бы ставок робіцца — каровіцу паіць. Яшчэ адзін кар'ерчык выкапаў пры балоцейку. Гэта ўжо ў Беларусі!..

Неўзабаве мы сядзелі пры кар'ерчыку на «велькай» гары, і твар старога ажно свяціўся:

— Хай паўзіраецца пан-таварыш! — казаў ён радасна. — Вунь там, пры лазенцы, жаўцее лапінка... Гэта я на зямлісе беларускай аўсец пасеяў. Меў два пудзікі насення і пасеяў... А там вунь, ля халупы, картопля зелянее, бурачкі. Усяго некалькі градак, але мне і таго старчыць... А вунь, бачыш, і пару яблыняк стаіць. За граніцаю і перад граніцаю...

— Пшчале тут выгода! — радаваўся Аноніс. — Лаза спярша зацвітае на ўзлессі, пазней — маліна, потым — кветка розная.

І раптам паскардзіўся:

— Адзін быў сюды самахоць прывёз пшчол. Праз які год ужо усім дакляраваў: мая тэрыторыя! Гразіцца стаў: выселю маёнтніка!.. Гэта значыць, мяне. Нашых пшчаляроў выжываць пачаў. Бабаў з малінніку выганяў!.. Людзі не вытрымалі, замальдавалі начальству, і яго вытурылі. Назад паехаў, пад свой Ленінград. Ванька Апоеў звалі нахабніка таго...

Зноў у руках Аноніса з'явілася самакрутка, зноў узняўся над ім сіні дымок, але не стаяў нерухома, як у хаце, а сплываў за плечы, прыпадаў к долу і раставаў між кветак і травы. Я паглядаў на змардаванага нялёгкім жыццём чалавека, і мне рабілася шкада яго.

Ён быдта прачытаў мае думкі:

— На зямлісе нашай, — сказаў разважліва, — нешта не тое дзеецца...

І змоўк...

Маўчаў доўга, пазіраючы ў далячынь, паверх свае «халупы». А потым стаў шарыць ля ног, у невысокай траве. Праз хвіліну трымаў на далоні зялёны «клубочак» падобны на кактус, толькі без іголак. Падкінуў, бытта хацеў узважыць вартасць тае знаходкі, і з непрыхаванай пяшчотай у голасе прамовіў:

— Пераскок. Яго людзі на магілкі садзяць... Голы жвір, а пераскок учэпіцца і расце...

І бытта рыску падвёў пад сказаным:

— Гэтаксама і чалавек. Не перашкаджай толькі, і ён як бачыш на зямлісе карані пусціць.

## V

Аноніс вызваўся правесці мяне да шасейкі. Ішлі здзірванелай граніцаю. Не даходзячы прыпынку, дзе прытармажваюць аўтобусы на Ашмяны, мой праваднік спыніўся і, падаючы мазолістую руку, сказаў:

— Калі, крый Бог, пана-таварыша паб'е на «яблыкі», няхай пан-таварыш прыязджае. Вылечу. За так вылечу. Няхай прыязджае пан-таварыш!

Павярнуўся і, ссутулены, пайшоў у свой «маёнтак».

## VI

З таго дня мінула амаль тры гады. За гэты час у нашым заблытаным свеце многае змянілася. Новае аблічча набыла і граніца, што палавініць панадворак старога Аноніса. Кажуць, там неўзабаве паставяць слупы...

Чалавек будзе зноў пазіраць на свае «гактарыкі» праз калючы дрот?

**Уладзімір МАЗГО**

# АЧЫШЧАЦЦА ДУШОЙ ЛЯ БАЖНІЦ

●

Лёгкі ветрык зайграе накцюрн,
І народзіцца
Музыка дзюн,
Каб услед за адлівам
Прыліў
Адраджэннем цябе акрыліў.

Будзеш піць з паўзабытых крыніц,
Ачышчацца душой
Ля бажніц
І ў сваёй акрылай хадзе
Пакланяцца агню
І вадзе.

Будзеш нанава жыць і кахаць,
Ненавідзець,
Тварыць,
Прысягаць,
Каб нашчадкам сваім аднавіць
Пакаленняў стваральную ніць.

Шлях да зор пракладзеш і назад,
Атрасаючы вечнасці сад,
А за спінай
Стагоддзя свяча,
Дагараючы,
Будзе маўчаць...

●

Крадком,
Нібы туман,
Падман
Шляхі засцеле.
І да таго ж —
Няма
Святла ў канцы тунеля.

Само жыццё —
Тунель,
А людзі,
Нібы совы,
За трыдзевяць зямель
Адправіцца гатовы,

Не бачыць каб даўжэй
Талоны і купоны.
Бог толькі беражэ,
Як кажуць,
Беражоных...

●

Ахвяравала гора нам
Пазбавіцца акоў,
Каб век было не сорамна
Нідзе за землякоў.

І далі ваўкавыскія,
І Беларусь уся
Дапамагалі выстаяць
Памкненням Кастуся.

Світала думка золакам:
Мы тут — гаспадары,
Бо сам Францішак з Полацка
Нам кнігу падарыў.

Люлялі долю горкую
З калысак да магіл,
А нам палыннай зоркаю
Заняўся небасхіл.

## Малітва

Даруй мне, Божа, за грахі,
Калі парою быў глухі,

Калі парою быў сляпы —
Не заўважаў чужой журбы.

Калі чым-небудзь сябру мог, —
Але ў бядзе не дапамог...

Малітву зноўку паўтару,
А ты, прашу цябе, даруй.

Даруй мне гэты напамін
Пра ўсе грахі мае.

Амін!..

●

Здавён,
Нібы душа
Расчыненая насцеж,
Шумлівая шаша
У жыцці шукае шчасце

Не ў хіжых гаражах,
А ў віражах імкненняў.
Бо дах —
І страх, і жах
Крылатых летуценняў —

Іржаваю мяжой
Акружаць нашу долю...
Шаша
Усёй душой
Бязмежна любіць волю.

●

Цярэбіцца праз нетры,
Стамлёная крыху,
Гады,
Як кіламетры,
На пройдзеным шляху,

Пакуль грукоча сэрца,
Не спыніцца ў хадзе.
Яна
Жыццём завецца —
Дарога да людзей.

## Паэт

1

Між звадак, войнаў
І пракоў
Паэт павінен
Быць прарокам.
Павінен быць
Празорцам трохі
Сваёй
Няўдзячлівай эпохі.
Свет немагчыма
Перайначыць, —
Дык чуйна чуць
І востра бачыць!..

2

А талент?..
Талент даражэй,
Што дадзен Богам.
Паэт павінен
Быць вышэй
Сябе самога.

# ...І КУРС АПЕРАТАРСКАГА МАЙСТЭРСТВА

Звычайна пасля выхаду на экраны фільма ў цэнтры ўвагі крытыкі і гледачоў аказваюцца акцёр або актрыса, радзей — рэжысёр і вельмі рэдка — аператар. І таму асабліва прыемна сказаць колькі добрых слоў на адрас аднаго з вядучых кінааператараў студыі «Беларусьфільм», уладальніка мноства прэмій і ўзнагарод на рознага роду кінафестывалях Ігара Канстанцінавіча Рамішэўскага, які з шасцідзесяці гадоў свайго жыцця трыццаць аддаў «Беларусьфільму».

За гады працы на студыі І. Рамішэўскі зняў больш за два дзесяткі мастацкіх фільмаў. Для плённай працы над карцінай абавязковай умовай з'яўляецца самы цесны кантакт з рэжысёрам, з усёй здымачнай групай. За тры дзесяцігоддзі І. Рамішэўскаму давялося працаваць амаль з усімі рэжысёрамі: У. Корш-Саблiным, В. Чацверыковым, Н. Калініным, В. Нікіфаравым, І. Дабралюбавым, Б. Сцяпанавым, Ю. Дубровіным, В. Рубінчыкам... Ды і карціны давялося здымаць самыя разнастайныя па жанрах і тэматыцы. У думках «пракручваю» іх, згадваючы строгія кадры «ваеннага часу» ў фільмах «Расказы пра юнацтва» і «Год сорак першы», альбо галавакружныя, часам гарэзлівыя — у камедыі «Саша-Сашачка», ці з дзівоснай дакладнасцю ўзноўлены гарадскі побыт эпохі 20-х і 30-х гадоў у карцінах «Корцік» і «Бронзавая птушка», адухоўленыя пейзажы роднай прыроды ў стужках «Бацька» і «Мы з Вулканам». Цяжка забыць выразныя, глыбока псіхалагічныя буйныя планы ў фільмах «Іду шукаць», «Бацька», «Крушэнне імперыі», «Саша-Сашачка», «Факт біяграфіі» і інш.

...Некалі ў гады вучобы Рамішэўскі пастаянна адчуваў сяброўскую падтрымку старэйшых таварышаў. Цяпер час аддаваць пазыкі. У Беларускай акадэміі мастацтваў арганізуецца факультэт, які будзе рыхтаваць для беларускай кінематаграфіі акцёраў, рэжысёраў, аператараў. Курс аператарскага майстэрства на факультэце будзе весці І. Рамішэўскі, якому ёсць што перадаць таленавітай моладзі са свайго багатага творчага вопыту...

**В. СМАЛЬ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства.**

# Абсурд «для дарослых»

Пастаноўка п'есы Славаміра Мрожака «Шчаслівае здарэнне» ажыццёўлена на сцэне Беларускага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа мастацкім кіраўніком тэатра Барысам Эрыным. Гэта першая пастаноўка п'есы ў нашай краіне. «Фантасмагарычная камедыя на тэмы сексу, сям'і і палітыкі», — так вызначылі жанр спектакля пастаноўшчыкі.

...Асобна ўзятая сям'я: Муж, Жонка і... Стары (аўтар знарок не дае ім імёнаў). Трагедыя іхняга дома ў тым, што ў Мужа з Жонкай няма дзяцей, не, не таму, што яны не хочуць ці не могуць мець дзяцей, а таму, што Стары перашкаджае ім... Ён нават спіць з імі ў адным ложку, каб не дапусціць грэху, а, дакладней кажучы, з-за свайго ўзросту ён амаль не спіць. Вось і даводзіцца Мужу шукаць паратунку. Так і з'яўляецца ў газеце аб'ява пра тое, што здаецца пакой з усімі выгодамі і цудоўным відам на Манблан. І прыходзіць у гэты дом Госць са спадзяваннем знайсці ў ім утульны куток, адзіноту і зацішак, каб спакойна назіраць за тым, што дзеецца ў свеце. Але асобнага пакою няма, выгодаў не стае, пра асобны ложак няма чаго і марыць... Госцю прапануецца спаць з усімі разам. І ён... згаджаецца. З гэтага моманту і пачынаецца сапраўдны абсурд, а, можа, проста казка для дарослых? Калі сачыць толькі за сюжэтам спектакля і не зважаць на асацыяцыі, што ўзнікаюць па ходзе не зусім лагічнага дзеяння, можна і так вызначыць для сябе жанр спектакля. Але тэатр настойліва запрашае паглыбіцца ў сутнасць прапанаванага матэрыялу. Барыс Эрын з вялікай павагай ставіцца да гледача, рупіцца пра тое, каб яго рэжысёрскія акцэнты былі зразумелымі без дадатковых тлумачэнняў. Акцёры, стварыўшыя цудоўныя вобразы нязвыклых персанажаў гэтага спектакля, таксама нясуць гледачу сваё адметнае разуменне матэрыялу абсурднай п'есы. Таццяна Анікіна (Жонка), Аляксандр Фралоў (Муж), Рыгор Шацько (Госць), Георгій Дубаў (Стары) Уладзімір Куляшоў (Немаўля) у абсурдным прадстаўленні шукаюць адказу на зусім рэальныя пытанні: ці зможа страчанае пакаленне, не дасягнуўшае нічога пры сваім жыцці, нарадзіць здаровае дзіця, каб аднавіць грамадства? Ці можа гэта адбыцца ў сям'і, дзе самыя блізкія людзі не разумеюць адно аднаго? Ці можа застацца чалавекам той, хто лічыць: перадусім — уласныя праблемы, а пасля мяне хоць што хочаце рабіце? Адкуль бяруцца дзеці-пачвары, здольныя толькі знішчаць, а не ствараць?..

Вось такі роздум нарадзіўся ў мяне пасля спектакля «Шчаслівае здарэнне». Толькі б нам знайсці ў сабе сілы хоць штонебудзь зразумець, пакуль не позна...

**Святлана ДАШКЕВІЧ.**

«Шчаслівае здарэнне» С. Мрожака. А. Фралоў (Муж), Р. Шацько (Госць).
Фота С. КОХАНА.

# Адгукнулася ў Слуцку

**Шэсцьдзесят гадоў назад тут па-варварску быў знішчаны Свята-Мікалаеўскі сабор**

**Ад яго на Замкавай гары ў цэнтры горада не засталося і следу — хіба што здымак у краязнаўчым музеі, на якім адлюстраваны толькі галоўны будынак сабора з шарападобным купалам, увенчаным крыжам. Званіца, што стаяла ўпрытык і верх якой праглядваўся, па ўспамінах старажылаў, за сорак кіламетраў ад горада, не трапіла ў аб'ектыў апарата невядомага фатографа. Ды і ўвогуле сёння ў Слуцку мала хто памятае гэты прыгожы культавы будынак, узведзены ў дзевятнаццатым стагоддзі на сродкі веруючых-прыхаджан і царквы (тады ў Слуцку налічвалася пятнаццаць толькі праваслаўных храмаў) на месцы, дзе нолісь стаяў Верхні замак, знішчаны не то ў пару татарскіх набегаў, не то расейскімі заваёўнікамі ў другой палове семнаццатага веку.**

**Летам 1932 года сабора не стала. К гэтаму часу ў горадзе ўсе праваслаўныя, каталіцкія і іудзейскія храмы па загаду ўлад былі закрыты, некаторыя, пераважна драўляныя і старыя, разбураны. Свята-Мікалаеўскі сабор, магчыма, стаяў бы па сённяшні дзень, калі б не рэха выбуху, што знішчыў годам раней знакаміты сабор Хрыста Збавіцеля ў Маскве. Сабор, што ўзводзіўся на працягу 46 гадоў на народныя сродкі і ўвекавечваў подзвіг у вайне з Напалеонам.**

**Ці засталіся ў Слуцку сведкі таго вандалізму? Яны ёсць, але адшукаць іх было не проста, таму што ўсе вуліцы і вулачкі, што вялі да Замкавай гары, вынішчыла мінулая вайна, жыхары ж альбо з'ехалі далёка, альбо жывуць у іншых месцах горада.**

**Уцалела і захавала нейкае даваеннае аблічча адна вуліца — Чырвонаармейская, колішняя Казацкая. Яна бярэ пачатак ад той горкі. Туды я і скіраваўся, як кажуць, на вобмацак. Першая сустрэча — у старым, уплыўшым у зямлю дамку — з 87-гадовай Анютай Парфір'еўнай Беба.**

**— Ці памятаю сабор? — перапытвае яна. — Яшчэ як! Бабуля мяне туды вадзіла на прычашчэнне, пазней дзеўкай сама хадзіла, там было вельмі прыгожа, на святы веруючых збіралася мо з тысячу. Хрэсны ход на Вялікдзень збіраў паўгорада. А вось як узрывалі — не памятаю. Працавала я тады рабочай на лесапілцы, потым там жа загадчыцай сталоўкі. Суседкі шэптам перадавалі, што камсамольцы-бязбожнікі наглуміліся над саборам, але прасілі нікому не гаварыць — баяліся тады людзі слова лішняе сказаць.**

**Яшчэ адна сустрэча — з настаўніцай-пенсіянеркай, якой тады, у 32-м, ішоў сёмы гадок. Назваць сваё прозвішча жанчына адмовілася, але расказала, што памятае, як маці вяла яе за руку да Замкавай гары. Тады іх не пусцілі, бо вакол замчышча стаялі ачапленне, пажарныя машыны. Потым над саборам узвілося полымя, клубы пылу і дыму, моцна грукнула. І ўсё.**

**Не густа з успамінамі сведак! Дзякуй Анюце Парфір'еўне, яна пры развітанні параіла адшукаць у горадзе 90-гадовага жыхара іх вуліцы Канстанціна Еўдакімавіча Чарнушэвіча. Маўляў, ён усё раскажа пра сабор.**

**І вось я на вуліцы 8-га сакавіка ў шматкватэрным доме, што вырас на беразе Случы. Дзядуля яшчэ пры добрай памяці, словаахвочы, жвава адгукнуўся на маю просьбу:**

**— Я, сынок, туды з бацькам шмат разоў заходзіў яшчэ хлапчуком, бо ён у Раждзественскай царкве служыў панамаром: запальваў свечкі, кадзіла, дапамагаў настаяцелю апранацца ў дні прастольных святаў. Свята-Мікалаеўскі сабор вернікі горада клікалі «цёплым» — там па кутках стаялі печкі-грубкі. Побач, на той жа Замкавай горцы, стаяў яшчэ адзін сабор — драўляны, халодны, яго пры бальшавіках разабралі. А ў «цёплым» было аж тры хоры. Службу правіў архірэй па прозвішчы Шамеціс. Бальшавікі яго расстралялі недзе ў пачатку дваццатых гадоў. Да сабора яны падбіраліся яшчэ ў васемнаццатым, тады пры адступленні з горада ўлады загадалі зняць званы, каб не трапілі ў рукі кайзераўскаму войску. Але тады паспелі зняць два ці тры званы. З астатнімі раздзелаліся пазней, перад тым, як закласці ў сцены дынаміт. Адзін з ахвотнікаў-бязбожнікаў па прозвішчы Жадан замахнуўся молатам, каб збіць звон, але пасля першага ўдару па «вуху» молат выпаў у яго з рук, услед за ім і бязбожнік паляцеў уніз, разбіўся насмерць. Выбухам, памятаю, абваліла купал, а сцены тыдняў з два ці тры дзяўблі ламамі і кіркамі. Прыходзілі асавіяхімаўцы, розная гарадская шпана. Людзі, гледзячы на тое варварства, плакалі, але ніхто не пярэчыў — тады за адно слова ў абарону храма маглі ўпячы на Салаўкі ці яшчэ куды. Чакайце, ледзь не забыў: праводзілася тая акцыя пры старшыні гарвыканкома па прозвішчы Сечка. Але ж ён не адзін прымаў рашэнне...**

**На месцы, дзе стаяў сабор, перад самай вайной пачалі будаўніцтва Дома культуры. Ды не паспелі, закончылі толькі ў 1951 годзе. Калі горад разросся і насельніцтва яго пераваліла за 50 тысяч чалавек, побач з тым будынкам, упрытык, узвялі новы, больш умяшчальны. Аднак абодва не склалі архітэктурнага ансамбля, вартага ўдзячнага слова. Прайграе ён і колішняму сабору — ва ўсім.**

**Ці застаўся хто ў жывых з непасрэдных выканаўцаў варварскай акцыі? Вядомы ў горадзе настаўнік-краязнаўца, аўтар некалькіх кніг па слуцкай старасвеччыне Рыгор Родчанка ўспомніў пры сустрэчы нейкага Івана Шкрамаду, які расказваў яму, як удзельнічаў у разбурэнні сабора на правах члена асавіяхімаўскай арганізацыі. І прыпомніў трагічны выпадак: пры падзенні самага буйнога звана ўдар шматпудовай «адліўкі» прыйшоўся па рыштаванні, на якім стаяў арганізатар аперацыі. Спружыніўшы, дошка падкінула яго ўгару, і чалавек разбіўся.**

**Удалося, зусім выпадкова, даведацца аб чалавеку, які добраахвотна згадзіўся зняць крыжы з сабора. Гэта быў нехта Іван Кухталёў. Пра яго мне расказаў знаёмы ўрач-хірург, які некалькі гадоў назад апераваў Кухталёва і той, ачуняўшы пасля наркозу, падзяліўся сваёй тайнай: «А я, доктар, у трыццаць другім годзе крыжы скідваў са Свята-Мікалаеўскага сабора. Смелы тады быў і дужы, не раўня цяпер, на старасці гадоў». На схіле жыцця Кухталёў працаваў дворнікам і конюхам у адной з арганізацый горада.**

**Вось і ўся гісторыя пра водгулле маскоўскага выбуху.**

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г. Слуцк.

## МУЗЫКА

**Гісторыя Дзяржаўнага камернага аркестра Беларусі звязана з імёнамі выдатных дырыжораў. Жыццё яму далі самаадданасць і нястрымная энергія кампазітара і арганіста А. Янчанкі. Доўгія гады калектыў узначальваў Ю. Цырук, пад кіраўніцтвам якога ажыццявіліся, мабыць, самыя «гучныя» творчыя пачынанні — выкананне унікальнага цыкла «Усе фартэпіянныя канцэрты В. А. Моцарта», выступленні з Э. Вірсаладзе, С. Рыхтэрам, Н. Гутман, У. Співаковым, першыя запісы на пласцінкі і замежныя гастролі. Працавалі з аркестрам і маладыя таленавітыя музыканты І. Галаўчын, А. Палянічка, А. Вінаградаў, на жаль, вельмі непрацяглы час... І вось, ужо другі год за пультам камернага аркестра новы галоўны дырыжор — Віктар Собалеў.**

**— Віктар Яўгенавіч, калі ласка, крыху пра сябе, пра ваш шлях да дырыжорскага пульта...**

— Я карэнны ленінградзец. Закончыў музычную школу-адзінаццацігодку і кансерваторыю па класе аркестравага дырыжыравання прафесара У. Чарнушэнкі. Тры з паловай гады быў галоўным дырыжорам Чэлябінскага опернага тэатра. Паставіў там такія шэдэўры музыкі, як «Снягурачка» М. Рымскага-Корсакава, «Багема» Д. Пучыні, «Рамэа і Джульета» С. Пракоф'ева, а таксама новую оперу маскоўскага кампазітара А. Журбіна «Нецярпенне». Акрамя таго, пад маім кіраўніцтвам аркестр тэатра выступаў і з сімфанічнымі праграмамі. Увогуле, цікавай працы было шмат. Аднак асабістыя акалічнасці вымусілі мяне вярнуцца ў Санкт-Пецярбург.

**— Напэўна, пераезд у Мінск пасля таго, як вы прайшлі па конкурсе на пасаду мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора камернага аркестра, стаўся досыць крутым паваротам у вашай прафесійнай дзейнасці? Бо праца з камерным калектывам мае сваю спецыфіку.**

— Вядома. На першы погляд, працаваць з камерным

## З ПОШТЫ АДДЗЕЛА МУЗЫКІ

**Больш за год працягвалася ў Лідзе сапраўдная барацьба за новы будынак былога гаркома КПБ. Дзеячы культуры, Міністэрства культуры Беларусі, рэспубліканскі (гл. «ЛіМ» за 2.08.91 г), абласны і мясцовы друк, радыё, грамадскасць г. Ліды, спецыяльна створаная камісія гарвыканкома галасавалі за тое, каб гэты будынак быў перададзены калектывам музычнага вучылішча і школы, якія працуюць у жудасных умовах. Але мясцовыя функцыянеры зрабілі ўсё наадварот — забралі гэты будынак сабе. Лічым, што яны проста кампраметуюць нашу ўладу. Шчыра просім: надрукуйце, калі ласка, артыкул, які падрыхтаваў дэпутат гарсавета К. Сцяпанаў.**

**М. БАЯРОВІЧ,**
**дырэктар Лідскага музычнага вучылішча,**
**В. РАДЗІЁНАЎ,**
**кампазітар, выкладчык вучылішча.**

У Лідзе адбылося пасяджэнне гарвыканкома, дзе вырашалася пытанне наконт перадачы маёмасці КПБ-КПСС мясцовым Саветам. На пытанне, каму перадаць новы будынак гаркома партыі, быў падрыхтаваны просты і хуткі адказ: забраць

# «СПАДЗЯЮСЯ НА САТВОРЧАСЦЬ...»

аркестрам дырыжору нібыта працей. У оперным тэатры і творчых «цэхаў» шмат — хор, аркестр, балет, салісты,— і фігура рэжысёра іграе вельмі вялікую ролю. Ды я перакананы, што оперная практыка надзвычай карысная,— я б усіх дырыжораў спачатку накіроўваў у музычны тэатр, бо менавіта ён прывучае мысліць рэальна, не летуценіць. У гэтым сэнсе стасунак з сімфанічным і тым больш камерным аркестрам дае дырыжору адчуванне, нібыта з плячэй звалілася гара. Але, з другога боку, перад ім адразу ж паўстае мноства новых праблем.

**— Напрыклад?**

— У камерным аркестры выключна важная індывідуальнасць выканаўцы, велізарнае значэнне мае кожная аркестравая партыя, яе дакладная ювелірная аздоба. Калі вялікі сімфанічны аркестр валодае так званым «сумарным тонам», дзякуючы чаму ўсе разам, увесь калектыў у цэлым робіцца мацнейшым, чым кожны выканаўца паасобку, то ў камерным аркестры гэтага часцяком няма. Таму праблема ў тым, каб, ні ў якім выпадку не нівеліруючы творчыя індывідуальнасці артыстаў, набыць яшчэ і штосьці накшталт гэтага «сумарнага гучання». Між іншым, з ім звязаны і пошукі ўласнага тэмбру, уласнага непаўторнага аркестравага голасу (не сакрэт жа, што многія аркестры сёння гучаць абсалютна аднолькава). У гэтым сэнсе камерны аркестр можна параўнаць з квартэтам — напэўна, самым складаным і тонкім жанрам камернай музыкі. Нараджэнне высакакласнага квартэта — заўсёды велізарная творчая ўдача і вынік карпатлівай працы. Успомнім, дарэчы, Жуля Верна: у яго ным рамане «Плывучы востраў» выбітны квартэт проста ўзялі і выкралі! Не менш намаганняў вымагае і стварэнне класнага камернага аркестра. Працуючы з ім, дырыжор удасканальвае многія свае прафесійныя якасці: пачуццё стылю, слых, увагу да дэталяў нотнага тэксту. З другога боку, кіраванне струннымі не прад'яўляе да дырыжора вельмі высокіх мануальных патрабаванняў. А рукі ж дырыжора — гэта своеасаблівы інструмент з характэрнай для яго тэхнікай! Таму, на мой погляд, дырыжор павінен перыядычна звяртацца да розных жанраў, розных выканаўчых складаў.

**— Дарэчы, вашы ўласныя канцэртныя пастаноўкі опер у філармоніі, выкананне ў ДАВТе опер Моцарта, Бізэ, Пучыні паспелі ўжо стаць прыкметнай з'явай у музычным жыцці Мінска. Але мы, здаецца, адышлі ад праблем камернага аркестра. Ці яны ўжо вычарпаны?**

— Не, канечне. Яшчэ адна — адносная кансерватыўнасць рэпертуару, прыхільнасць да пэўных стыляў, у прыватнасці, барока, ранняга класіцызму. Менавіта таму я і лічу адной з надзённых задач нашага калектыву выпрацоўку стылёвай мабільнасці, узбагачэнне праграм за кошт музыкі XIX і XX стагоддзяў — Дворжака, Чайкоўскага, Арэнскага, Глазунова, Стравінскага, Бартака, Хіндэміта, Шастаковіча, Лютаслаўскага і інш.

**— Стварэнне Мінскага камернага аркестра амаль чвэрць стагоддзя назад сталася мацнейшым стымулам для фарміравання беларускага нацыянальнага камерна-інструментальнага рэпертуару. Усе гэтыя гады калектыў нязменна з'яўляецца адным з самых актыўных прапагандыстаў беларускай музыкі...**

— Мы з задавальненнем пашыраем далягляды засваення нацыянальнага музычнага мастацтва. Летась наш аркестр удзельнічаў у фестывалі «Адраджэнне беларускай капэлы», выконваў цудоўную музыку XVII—XIX стагоддзяў: М. Радзівіла, І. Голанда, Р. Вардоцкага (у рэдакцыі Д. Смольскага). Маем у рэпертуары і беларускую класіку, і творы маладых кампазітараў С. Бельцюкова, А. Бандарэнкі, У. Солтана — яго сюіту «Думкі і настроі» мы з поспехам паказвалі на нядаўніх гастролях у Германіі.

**— Я думаю, нашым чытачам будзе цікава даведацца больш пра тое, як прымаюць нашых музыкантаў за мяжой, з якім поспехам праходзяць там канцэрты тых, хто ў сябе дома пастаянна знаходзіцца пад прэсам дэфіцыту — не толькі фінансавага, але і дэфіцыту павагі, увагі, элементарных умоў для творчасці.**

— У гэтым сезоне нам давялося ўпершыню выступіць у Капенгагене з опернай зоркай Кацяй Рычарэлі. Гэтую цудоўную спявачку нашы аматары музыкі могуць памятаць праз яе ўдзел у ленінградскім тэлемарафоне «Адраджэнне», па тэлевізійных трансляцыях з лепшых оперных тэатраў свету такіх спектакляў, як «Атэла», «Фальстаф». Каця Рычарэлі стала жыве на Сіцыліі, але яе непаўторнае сапрана гучыць у самых розных краінах. Любімы рэпертуар спявачкі — старадаўняя музыка і творчасць італьянскіх кампазітараў. Яны і былі прадстаўлены ў нашай праграме. Вядома, нам вельмі прыемна, што Каця Рычарэлі, музыкант найвышэйшага класа і да таго ж надзвычай абаяльная жанчына, высока ацаніла наша сумеснае выступленне і прапанавала супрацоўнічаць у будучым. Запомніліся і гастролі ў нямецкім горадзе Хельмштэдце. У старадаўняй зале універсітэта «Юлеум» мы выканалі аркестравыя «Серэнаду» Дворжака і сюіту Солтана, а таксама фартэпіянны і скрыпічны канцэрты Моцарта. Прымалі нас вельмі хораша, самы вялікі поспех выпаў на долю маладых салістаў — нямецкай піяністкі Юдзіт Мош і беларускага скрыпача Алега Рылаткі. Абодва яны — вельмі таленавітыя музыканты і, я думаю, іх чакае вялікая будучыня.

**— Віктар Яўгенавіч, калі падсумаваць усё зробленае за гэты, увогуле-то невялікі, адрэзак часу, то можна сказаць, што ваша «ўваходжанне» ў беларускае музычнае жыццё аказалася досыць паспяховым. Але ці адчуваеце вы сябе ў Мінску «як дома»?**

— Я вельмі хацеў бы адказаць на гэтае пытанне сцвярджальна, але пакуль не атрымліваецца. Справа ў тым, што жыву я ў інтэрнаце, куды, як вы самі разумееце, забраць сям'ю і старэнькую маці немагчыма. Вось і даводзіцца, акрамя зменлівых гастрольных маршрутаў, курсіраваць яшчэ і па нязменным: Мінск—Санкт-Пецярбург—Ноўгарад. І рабіць гэта ўсё цяжэй... Што ж тычыцца творчасці, то гаварыць пра значныя перамогі я яшчэ канечне, не магу, хоць намечаная праграма пастулова ажыццяўляецца. Ёсць цікавыя планы — канцэрт у Вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі, выкананне «Страсцей па Іаану» Баха сумесна з навучэнцамі Музычнага ліцэя пры БДК; мару правесці Фестываль камерных аркестраў. І ў ажыццяўленні задуманага я спадзяюся на сатворчасць сваіх калег — музыкантаў аркестра.

**— Дзякуй за інтэрв'ю і поспехаў вам.**

**Вольга САВІЦКАЯ.**

Фота У. ВІТЧАНКІ.



# СТРАСЦІ ВАКОЛ «БЕЛАГА ДОМА»

яго сабе. Нельга сказаць, што гэта ўсіх узрадавала, што ўсе з гэтым згадзіліся. Бо лёс будынка неаднаразова абмяркоўваўся ў працоўных калектывах, у мясцовым друку, у дэпутацкіх групах, на сесіі гарсавета. Праблема ўзнікла яшчэ да жнівеньскіх падзей, як вынік бессаромнасці і безадказнасці былых уладароў, калі, нягледзячы на жудасныя ўмовы ў ДМШ, музвучылішчы, спартыўнай школе, Доме піянераў, цяжкае становішча ў агульнаадукацыйных школах і жыллёвым будаўніцтве, побач з гаркомам партыі вырас новы, больш шыкоўны будынак. Адбылося гэта пасля адмены 6-га артыкула Канстытуцыі, пасля стольніх размоў пра незаслужаныя прывілеі партыйнай наменклатуры, злоўжыванні адміністрацыйна-каманднай сістэмы. А насупраць жа новага будынка гаркома ўжо восьмы год будуецца гарадскі Дом культуры, неаднаразова адкладваецца рэканструкцыя і будаўніцтва важнейшых для жыцця горада аб'ектаў.

Амаль на працягу года група дэпутатаў, грамадскасць спрабавалі пераканаць кіраўнікоў горада перадаць новы будынак адной з дзіцячых устаноў. Гэтыя прапановы гучалі ў працоўных калектывах, на гарадскіх мітынгах, сесіях гарсавета. На адной з іх нават была створана камісія ў складзе старшыні гарсавета, старшыні выканкома і сакратара гаркома, якая абяцала разгледзець пытанне, але...

Убачыўшы нежаданне ўлад вырашаць яго, група дэпутатаў узяла ініцыятыву на сябе. Пачаўся збор подпісаў, абмеркаванне ў мясцовым друку; дэпутаты звярнуліся па дапамогу і да камуністаў горада, сабралі 5 тыс. подпісаў. Пасля сумнавядомых жнівеньскіх падзей дыскусіі аднавіліся... І, нарэшце, з'явіўся нейкі прасвет. Гарсаветам і гарвыканкомам была створана камісія па вывучэнні пытання аб далейшым выкарыстанні будынка. У яе склад увайшлі супрацоўнікі выканкома, архітэктурна-праектнай службы, пажарнай аховы, пракуратуры, дэпутаты, дырэктары музычных навучальных устаноў, галоўны санітарны ўрач. Камісія вывучыла ўмовы працы ў музычных школе і вучылішчы, установах народнай адукацыі, аховы здароўя і вынесла рэкамендацыі да сесіі гарсавета — перадаць новы будынак былога гаркома партыі музычнай школе і музвучылішчу. Гэтыя радасныя для многіх вынікі былі надрукаваны ў «Лідскай газеце», перададзены па мясцовым радыё. Пасля выхаду ў свет пастановы Вярхоўнага Савета Беларусі, дзе гаворыцца: «Пры вырашэнні пытанняў далейшага распараджэння маёмасцю пераважна выкарыстоўваць яе для размяшчэння навучальных устаноў і таксама ўстаноў сацыяльна-культурнай сферы і аховы здароўя, — супакоіліся самыя недаверлівыя. Аднак сесія гарсавета ўсё адкладвалася.

Раптам «адліга» скончылася. Усё пайшло па старых рэйках. Пытанне наконт далейшага выкарыстання новага будынка гаркома партыі ўзяўся вырашаць выканком, у якога ўжо з'явілася альтэрнатыўная прапанова — забраць «белы дом» пад свае кабінеты. Хутка было склікана пасяджэнне выканкома, і мне давялося там прысутнічаць. Абмеркаванне ішло «ў адзін бок»: як там дрэнна будзе дзецям і як добра размесцяцца службы выканкома. Тут жа знайшліся «спецыялісты» па музычнай адукацыі і акустыцы. Сорам, безнадзейнасць літаральна давілі мяне, калі намеснік старшыні выканкома, старшыня той самай камісіі, што раней рэкамендавала перадаць будынак музычнай школе і муззвучылішчу, адмовіўся ад ранейшых сваіх думак і пачаў даводзіць, як дрэнна, няўтульна, «как в большом сарае», будзе дзецям з музычнай школы ў новым доме і колькі будзе фінансавых выдаткаў. Найбольш уразілі ў гэтым выступленні парады пра арганізацыю музычнай адукацыі: маўляў, трэба не ствараць «вялікія» структуры музычнай школы, а ісці па хатах да вучняў.

Пасля эмацыянальных выступленняў дэпутатаў і прадстаўнікоў музычных навучальных устаноў пачулася заўвага: «Уладу трэба паважаць, патрабуйце тое, што вам належыць». Так, уладу трэба паважаць,—гэта бясспрэчна. Але ці па справах, ці па асаблівай вопратцы і вялікіх шыкоўных будынках? І чаму гэтая ўлада за ўсе гады свайго існавання нічога не пабудавала для ўстаноў культуры, чаму за 7 год ніяк не справіцца з будаўніцтвам гарадскога Дома культуры, чаму ДМШ, музвучылішча, спартыўная школа, Дом піянераў з першых дзён (больш як 30 гадоў!) знаходзяцца ў дрэнных, непрыстасаваных памяшканнях, а гарадскія ўлады мяняюць ужо трэці будынак?

Пасяджэнне закончылася аднагалосным рашэннем: выканкому пераехаць у новы будынак гаркома партыі. А пытанні засталіся. Чаму так хутка мяняюцца думкі адказных асоб? Чаму такі жывучы прынцып каманднa-адміністрацыйнай сістэмы? Якія сілы паўплывалі на вырашэнне лёсу будынка? Чаму Вярхоўны Савет Беларусі пастанаўляе перадаць маёмасць КПБ-КПСС пераважна навучальным установам, установам культуры і аховы здароўя, а ў Лідзе перавагу атрымалі чыноўнікі?

Засмуціла і сесія гарадскога Савета: 53 дэпутаты з 89 падтрымалі рашэнне выканкома. Сумна, што, як заўжды, знайшлася агульнавядомая большасць, і забыліся былыя лозунгі наконт адраджэння культуры. Прыкра, што праігнараваны звароты да сесіі гарсавета дзеячаў культуры і мастацтва Беларусі, міністра культуры Беларусі, Камісіі Вярхоўнага Савета па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, якую ўзначальвае народны паэт Ніл Гілевіч. Абразілі словы старшыні гарсавета: «А што яны, гэтыя дзеячы, пісьменнікі, музыканты зрабілі для нас? Толькі паперы прыгожыя складаюць, дык на гэта яны і пісьменнікі».

Навучэнцы і выкладчыкі ў час сесіі з музычнымі інструментамі ў руках пікетавалі «белы дом», дзе ішла сесія, але і іхні голас не быў пачуты. Сорамна, што знайшліся людзі, нават сярод афіцыйных асоб, якія выказаліся наконт непатрэбнасці існавання музычных навучальных устаноў у горадзе. Усё гэта нагадвае дрэнных бацькоў, якія не справіліся з выхаваннем дзіцяці, а калі яно нешта папрасіла — вырашылі адмовіцца ад яго. Чаму ж так імгненна ўсё перавярнулася?

**К. СЦЯПАНАЎ,**
**выкладчык музычнага вучылішча, дэпутат гарадскога Савета.**

г. Ліда.



# КРОК па шляху да ісціны

**6—7 красавіка ў мінскім Доме літаратара адбываўся міжнародны «круглы стол» пад назваю «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім», арганізаваны Беларускім дзяржаўным універсітэтам, Інстытутам гісторыі АН Беларусі, Лонданскім універсітэтам, Люблінскім каталіцкім універсітэтам, Міжнароднай асацыяцыяй беларусістаў, Міністэрствам адукацыі Беларусі, Нацыянальным навукова-асветным цэнтрам імя Скарыны ды Польскай Акадэміяй навук.**

**На пытанні карэспандэнта «ЛіМа» аб ходзе і выніках работы «круглага стала» адказвае прэзідэнт Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў прафесар Адам МАЛЬДЗІС.**

**— Сп. Мальдзіс, што стала падставай для правядзення «круглага стала»?**

— Сёння Беларусь—незалежная краіна, адносіны паміж намі і сумежнымі дзяржавамі вызначаюць палітычную сітуацыю не толькі ў рэгіёне, але і па ўсёй Еўропе. Беларусь павінна знаходзіць агульную мову са сваімі суседзямі, бо колькі канфліктаў у свеце маюць прычынай тэрытарыяльныя, тэрміналагічныя ды іншыя спрэчкі між дзяржавамі! Каб захаваць і працягнуць традыцыю добрых адносін з суседзямі, мы мусім па-новаму асэнсаваць нашу агульную гісторыю. Лепш, калі магчымыя складанасці ў міждзяржаўных дачыненнях вырашаць навукоўцы, а не палітыкі.

**— У нарадзе бралі ўдзел даследчыкі з Беларусі, Англіі, Італіі, Польшчы, але не былі прадстаўлены Літва ці Украіна...**

— Так, але гэтым разам на абмеркаванне былі вынесены пытанні, якія датычылі выключна ролі Беларусі ў ВКЛ. Праз нейкі час мы мяркуем правесці канферэнцыю з удзелам літоўскіх гісторыкаў. На мой погляд, лепшае месца для яе правядзення—беларуска-літоўскае памежжа, магчыма, Астравецкі раён—Варняны, Гервяты, ці, напрыклад, Гіры. Беларуская і літоўская культуры ў гэтым рэгіёне суіснуюць традыцыйна цесна. Цяжка знайсці лепшае месца дзеля правядзення сустрэчы, прысвечанай збліжэнню пунктаў гледжання навукоўцаў абедзвюх краін. Мы гатовы прапанаваць літоўскім калегам падсумаванне вынікаў работы «круглага стала», які адбыўся, яны, магчыма, прапануюць нам свой варыянт, а потым ужо можа адбыцца агульная сустрэча з удзелам гісторыкаў, мовазнаўцаў, культуролагаў, прадстаўляючых абодва бакі з тым, каб прыйсці да пагаднення. Не думаю, каб аднолькавыя думкі выказваліся па ўсіх пытаннях, але гэта не можа перашкодзіць плённай працы, зважаючы на важнасць сумеснай работы з вучонымі Літвы. Сярод пытанняў, якія патрабуюць агульнай працы—тэрміналогія. Так, напрыклад, створаны насуперак правілаў беларускай і літоўскай моў тэрмін «летувісы» часта абражае літоўцаў. У сваю чаргу, мы можам быць незадаволены ўжываннем этноніма «гуды» дзеля азначэння беларусаў, бо паводле традыцый літоўскай мовы гэтае слова азначае чужынца ўвогуле. Але падобныя пытанні мы ў стане вырашыць.

**— Ці плануюць беларускія гісторыкі правядзенне сумесных нарад з украінскімі і расейскімі калегамі?**

— Такая канферэнцыя пад назвай «Рым-3» мае адбыцца ў маі ў Камянцы-Падольскім на Украіне. Яна стане працягам серыі канферэнцый, першая з якіх—«Рым-1» адбылася ў Рыме, другая—у Любліне. Трэцяя, як я ўжо казаў, пройдзе на Украіне, а наступная, чацвёртая—у Пінску, на Беларусі. Традыцыя сустрэч гісторыкаў, філолагаў, спецыялістаў па культуры з краін Цэнтральнай і Сярэдне-Усходняй Еўропы пакладзена вучонымі з Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. На бліжэйшай сустрэчы ўпершыню будуць прысутнічаць прадстаўнікі Чэха-Славаччыны, Вугоршчыны (Венгрыі), краін Балтыі ды Расеі.

**— Якія пытанні будуць абмяркоўвацца на гэтай сустрэчы?**

— Адно з самых надзённых пытанняў—узаемнае збліжэнне зместу падручнікаў гісторыі, выдаваных у розных краінах. Дагэтуль нярэдкія супярэчнасці ў асвятленні тых самых падзей. Тое, што афіцыйная гістарыяграфія адной краіны называе вызваленчай місіяй, іншы бок уважае за акупацыю. Нярэдка гэта можа выклікаць спрэчкі, але жаданне супольна працаваць заўсёды пераможа, як паказаў прыклад работы апошняга «круглага стала».

**— Правядзенне падобных сустрэч мае выключна навуковае значэнне?**

— Не толькі навуковае, але і агульнакультурнае. Заходнія навукоўцы, якія бяруць у іх удзел, маюць традыцыйна добрыя кантакты ў ЮНЕСКА, Еўрапейскай супольнасці, і гэта можа быць вельмі карысна для нашай краіны падчас вырашэння нейкіх пытанняў на міжнародным узроўні. Так, падчас побыту нашых гасцей у Нясвіжы шмат хто з іх выказаў думку пра тое, што Нясвіж мае поўнае права быць аднесеным да нулявога класа помнікаў сусветнае культуры—таго, які знаходзіцца пад асобай аховай ЮНЕСКА і ў іх аднаўленні і захаванні зацікаўлена і бярэ ўдзел міжнародная супольнасць. Таксама неафіцыйна была выказана яшчэ адна цікавая думка: Нясвіжскі замак і фарны касцёл былі пабудаваны выдатным італьянскім архітэктарам Янам Марыяй Бернардоні і таму варта было б выдаць супольны беларуска-італьянскі альбом, прысвечаны Нясвіжу і творчасці Бернардоні, у якім маглі б быць змешчаны яшчэ неапублікаваныя чарцяжы і эскізы майстра.

**— Ці не з'яўляецца правядзенне падобных міжнародных нарад першым крокам да напісання новай супольнай гісторыі Беларусі, Польшчы, Літвы і Украіны?**

— Менавіта пра гэта гаварыў прафесар Люблінскага каталіцкага універсітэта Ежы Клачкоўскі: суверэнныя дзяржавы па-новаму глядзяць на сваю гісторыю. Спадзяюся, з цягам часу будзе створаны навуковы калектыў, які напіша калі не гісторыю Еўропы, дык, прынамсі, гісторыю цэнтральнай і сярэдне-ўсходняй яе частак, гісторыю нашага рэгіёна.

**— Ці задаволены вы вынікамі работы «круглага стала»?**

— Галоўным нашым жаданнем было набліжэнне пунктаў гледжання вучоных розных краін на нашу агульную гісторыю. Падчас сустрэчы мы не паставілі ўсе кропкі над і, але шлях да ісціны складаецца з маленькіх крокаў. Мы зрабілі яшчэ адзін крок наперад.

### ПАДСУМАВАННЕ

вынікаў работы міжнароднага «круглага стала» па тэме «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім»

6—7 красавіка 1992 г. у Менску адбыўся міжнародны «круглы стол» па праблеме «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім». Яго ўдзельнікі—вядомыя беларускія, польскія, англійскія, італьянскія гісторыкі і філолагі-славісты—у выніку дыскусіі прыйшлі да наступных высноў:

— Афіцыйная савецкая гістарыяграфія 30—80-х гг. адмаўляла існаванне дзяржаўнасці Беларусі ў эпоху сярэднявечча, звязваючы набыццё яе толькі з Кастрычніцкай рэвалюцыяй і ўстанаўленнем бальшавіцкай улады. Пры гэтым, з аднаго боку, адмаўлялся беларускі характар дзяржаўнасці Полацкага і іншых княстваў на тэрыторыі Беларусі ў IX—XIII стст., Вялікае княства Літоўскае падавалася як чужаземная для беларусаў дзяржава-прыгнятальнік, з другога—Маскоўская дзяржава прадстаўлялася як родная для беларусаў, як вызваліцелька ад літоўскага і польскага прыгнёту ды адзінамагчымы цэнтр збірання ўсходнеславянскіх земляў.

— Гістарычныя крыніцы сведчаць, што вытокі беларускай дзяржаўнасці адносяцца да часу ўтварэння Полацкага і Тураўскага княстваў, а пазней Гародзенскага, Навагародскага, Смаленскага ды іншых. Створаная матэрыяльная і духоўная культура гэтых дзяржаў стала падмуркам дзяржаваўтваральных працэсаў на беларускіх землях у XIII—XIV стст.

— Ва ўмовах барацьбы з крыжацкай агрэсіяй і пад пагрозай мангола-татарскага нашэсця ў першай палове XIII ст. у верхнім Панямонні ўзнікла беларуска-літоўскае гаспадарства з цэнтрам у Навагародку, якое стала ядром магутнай еўрапейскай дзяржавы—Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага.

— Да сярэдзіны XV ст. гаспадарства афіцыйна называлася Вялікім княствам Літоўскім і Рускім, а пазней—Вялікім княствам Літоўскім, Рускім, Жамойцкім і іншых зямель. У Вялікім княстве тэрмін «Літва» тады адносіўся да тэрыторыі верхняга і сярэдняга Панямоння, а пад «Руссю» разумелася верхняе Падзвінне і Падняпроўе.

— Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае ўяўляла сабой федэрацыю земляў, у якой вакол першапачатковага ядра («уласна Літва») аб'ядноўваліся абласныя аўтаноміі. Пасля уніі з Каронай Польскай 1569 г. Вялікае княства развівалася ў складзе федэратыўнай дзяржавы—Рэчы Паспалітай—і было ліквідавана ў канцы XVIII ст. у выніку яе падзелаў паміж Расійскай імперыяй, Прусіяй і Аўстрыяй.

— У Вялікім княстве ва ўмовах палітычнага і духоўнага ўзаемадзеяння адбывалася станаўленне самабытных беларускай, літоўскай, украінскай і польскай культур.

— Усе народы, якія прымалі ўдзел у палітычным, эканамічным і культурным жыцці Вялікага княства, а найперш беларускі і літоўскі, з'яўляюцца гістарычнымі спадкаемцамі гэтай дзяржавы. Таму ёсць падставы ўжываць тэрмін для вызначэння дзяржаўнасці Вялікага княства Літоўскага, Рускага, Жамойцкага: Беларуска-Літоўскае гаспадарства.

**Гутарку вёў У. ПАНАДА.**

# «Прырода—ёмішча духоўнага развіцця народа...»

(Пачатак, на стар. 5).

**Вы ўжо казалі, што даводзілася пераконваць некаторых калег, што гэта не «голыя бабы» ў мурагах... Якой вам, спадар галоўны рэдактар, уяўляецца «эратызацыя» часопіса дый друкаваных выданняў увогуле?**

— Відаць, сам тэрмін «эротыка» ў дачыненні да публікацыі Р. Дыхавічуса можна прыняць з вялікай доляй умоўнасці. Адкрытае цела сярод прыроды вельмі арганічнае ў нашым часопісе—і з пункту гледжання экалагічнай танальнасці, і з пункту гледжання пекнаты, выхавання пачуццёвасці. Калі і прысутнічае тут эротыка, дык хіба ў той меры, у якой яе нельга абысці. Мы не імкнёмся, скажам, спрыяць «развіццю блізкасці» паміж людзьмі альбо стымуляваць фантазію, хаця і гэтага, мусіць, не варта ўнікаць...

Публікацыя фотасерыі хай сабе факт нечаканы, можа, рызыкоўны, але гэта **свядомы** выбар, а не «даніна модзе». Дэманструючы прыхільнасць да актавай фатаграфіі, мы зыходзілі першнаперш з творчай задачы: жаночая краса — адзін з цудаў прыроды, часцінка быцця, красы, узятая, на жаль, не з такой ужо і шчаслівай і пекнай рэальнасці. Гімн жаночай красе — гэта лагічны працяг гімну красе прыроднай. У Поля Элюара ёсць радкі, якімі мы падтрымалі адну з актавых фатаграфій: «Гэта любы мой свет, дзе з прыродай у лад Непакрытае цела спявае тваё».

Ну і, нарэшце, хіба жанчына ў нас не занядбана гэтак жа, як і прырода?..

Мы адрынулі мноства варыянтаў, якія не дацягвалі да ўзроўню рашэння такой творчай задачы, перш чым спыніліся на серыі віленскага фотамайстра «Кветкі сярод кветак». Я глядзеў ягоную выставу ў Палацы мастацтваў, аднак затым спецыяльна выбраўся да яго ў Вільню, каб зверыць сваё ўражанне з аўтарскай задумай: экалагічны падтэкст хоць і прачытваўся, хацелася ведаць пра гэта з першых вуснаў... Словам, да першай публікацыі ішлі надзвычай асцярожна, унікаючы павярхоўнасці і густовай неразборлівасці, якая спрэс пануе ў выданнях, што не адмаўляюць сабе ў эратычных рэчах. Хацелася захаваць максімум тактоўнасці, каб не тапталіся нормы маральнага і эстэтычнага парадку, якія заўсёды спадарожнічалі паказу непакрытага цела.

Да культурнай прысутнасці эротыкі ў нашай часопіснай прэсе яшчэ ісці ды ісці. Пакуль жа зашмат крыклівасці і пошласці, што нярэдка траўміруе пачуцці чытача і патурае разбэшчанасці. Зрэшты, гэта першая плата за свабоду. Але ж нехта слушна заўважыў, што каб даць свабоду цудоўнаму, трэба даць яе (свабоду) пачварнаму. Аднак мо лепш увогуле абысціся без ахвяраў?

...Эротыку ў нашым часопісе бачу дзялянкай свежай зеляніны, красы і гармоніі, фантазіі і хвалявання, якую трэба старанна распрацоўваць. Гэта павінна быць эротыка ў *нашым* часопісе, свой адмысловы выклад пачуццёвасці. Дарэчы, гэта не толькі адкрытае цела. Гэта... тысяча і адзін варыянт, якіх пакуль што няма на маім рэдактарскім стале. Можа, адгукнуцца аўтары маладзейшага веку...

**— Што ж, задумы, канешне, цікавыя. Але вернемся да «ціхай улады магчымасцяў»—толькі ўжо матэрыяльных. Якое становішча часопіса?**

— Вельмі заблытаная сітуацыя з заснавальнікамі. Іх шэсць, але хто сапраўдны гаспадар часопіса — дасюль невядома. Каб часопіс выходзіў, трэба закрываць адну фінансавую дзірку за другой. Рэдактар піша лісты, тэлефануе, напамінае, ходзіць... Будзе справядліва і лагічна, на маю думку, калі ў часопіса з'явіцца адзіны заснавальнік — наша суверэнная дзяржава Беларусь. І ўзаемаадносіны з ёй будуць грунтавацца на стратэгічных інтарэсах экалагічнага выжывання і Адраджэння. Часопіс ТАКОГА кірунку не можа заставацца залежным ад ведамства, якім бы яно «адпавядаючым» ні было.

Цяпер, у цяжкі для прэсы час, дзяржава павінна абараніць беларускамоўныя выданні, пра гэта кажуць усе журналісты і рэдактары. Але тым часам гэтыя выданні апынаюцца быццам і па-за рынкам: датацыя збольшага забяспечана, страты як-небудзь будуць пагашацца... Дык вось непакоіць, каб гэта не адбілася на творчай нашай актыўнасці, на здольнасці змагацца за чытача. Існуе пагроза правінцыйнасці і другасортнасці беларускіх выданняў, што скампраметуе не толькі журналістыку, але і само Адраджэнне.

Таму рынку не варта баяцца, хаця нясе ён нам пакуль што адны стрэсы і нечаканасці... Рынак карысны тым, што пераступае дарогу творчай бяздарнасці. Жывое не загіне, праб'ецца. Толькі перадусім яго трэба нарадзіць. У беларускамоўнай прэсе дастаткова не толькі жывога, але й мёртванароджанага, трафарэтнага. Як таго пазбавіцца? — зноў жа: не трэба баяцца рынку, які натуральным чынам селекцыянуе каштоўнасці і не-каштоўнасці. Трэба быць усё-ткі самакрытычнымі.

А яшчэ трэба гадаваць кадры. Сваё слова павінна сказаць новая генерацыя журналістаў з лепшым, чым наша, мысленнем. Ёсць задумы стварыць на журфаку прэс-клуб студэнтаў універсітэта, якія маглі б скласці касцяк заўтрашняга аўтарскага калектыву часопіса, працаваць у штаце.

«Родная прырода» сёння, можна сказаць, на пераломе — і творчым, і кадравым. Але я веру ў лепшы для часопіса час.

**Гутарку вёў Юрась ЗАЛОСКА.**

# ДВА ВЕРШЫ З ЛІСТА

Нядаўна я атрымаў пісьмо з Харкава, напісанае знаёмым—дробным і акуратным — почыркам. На адным аркушыку паперы — два даволі доўгія вершы і ліст: «Дарагі Валодзя! Я напісаў верш (ён перапісаны на другім баку гэтай старонкі). Мне хацелася б, каб ён спадабаўся Вам і Вам захацелася перакласці яго на беларускую мову. Я быў бы рады гэтаму, таму што ён самому мне падабаецца (што, як Вы, відаць, ведаеце, у аўтара ў адносінах да ўласнага верша здараецца рэдка) і таму што, як мне здаецца, ён перадае пачуцці многіх людзей, можа, соцень тысяч, калі не мільёнаў. На жаль, ён супярэчыць пануючай зараз у нашых суверэнных краінах нацыянальна-патрыятычнай ідэалогіі, ну а мне не прывыкаць быць у апазіцыі да афіцыйнай ідэалогіі. Доказам таго, што верш гэты ніякім чынам не з'яўляецца выказваннем настальгіі па імперыі, якая пала і якую, як Вы ведаеце, я заўсёды ненавідзеў, служыць амаль адначасова напісаны верш пра двухгаловага арла.

Але Бог з ім! Абдымаю Вас, жадаю Вам і Вашым родным і блізкім дабра і шчасця...

Хай беражэ Вас Бог.

Ваш Барыс ЧЫЧЫБАБІН».

Я выканаў просьбу паэта, пераклаў ягоныя вершы і прапаную ўвазе чытачоў «ЛіМа».

Уладзімір СКАРЫНКІН.

**Барыс ЧЫЧЫБАБІН**

## Плач па згубленай Радзіме

Не крыкнеш лёсу: «Цур-цура,
не мне трымаць адказ!»
Радзіма росчыркам пяра
ліквідавана ўраз.

Я плачу ў свеце не па той,
якой Зямля дала,
спрачаючыся з нематой,
імя дзяржавы зла,

а па другой, шматвекавой,
з марозным звонам зім,
заўсёды будучай, якой
мы жыцці аддадзім.

Ні снегу на душы, ні льдзін,
я ў пекле на ражне.
За што радзімы ў міг адзін
пазбавілі мяне!

Стараўся д'ябал нездарма
нас аблапошыць зноў.
Яе абсягаў больш няма,
няма яе часоў.

На твары гараснай зямлі
яе шукаю след.
Мы развітацца не змаглі
з радзімаю як след.

Жыву, нібы ў кашмарным сне.
Ужо даўным-даўно
яна як маці для мяне,
яна і я — адно.

Смерць гойсала ў яе снягах
з касою галяком,
каб ледзь трымаўся на нагах,
паіла першаком.

Клялі радзіму князь, бядняк
і бард, што песні ўе,
ды кожны разумеў, аднак,
што нельга без яе.

І той, хто некалі аслеп,
зноў адчуваў віну.
Быў рады украінскі хлеб
малдаўскаму віну.

Шмат меў я ад яе вымоў,
ды прыязджаў, нібы
не на чужыну, а дамоў,
у кут яе любы.

Сваімі думкамі з Баку
дзяліўся Ерэван.
Мне клалі на плячо руку
то пальма, то платан.

Было — скачы наўскапыта,
любуйся шырынёй.
Цяпер я круглы сірата —
па маці і па ёй.

Руплівa сто вякоў амаль
вянкі яе плямён
Бог у народ збіраў. На жаль,
не ўсемагутны ён.

Чые мы дочкі і сыны!
Чый прадаўжаем род!
Раптоўна слугі сатаны
той знішчылі народ.

Касмічны велічны касцёр
пры нас амаль патух.
Мы прасвісталі свой прастор,
пралаялі свой дух.

Высь пагражае цемнатой,
злы ў бездані ашчэр,
бо мы жылі ў айчыне той,
якой няма цяпер.

## Арліная элегія

Па-над светам крылы распасцёрты.
Вы сваёй не баіцеся згубы!
Зноў у лёт пайшоў арол двухморды,
кіпцелапы і крывавадзюбы.

І на захад, і на ўсход адразу
скіраваны прагныя галовы.
Ён разносіць зло, нібы заразу,
і любога задзяўбаць гатовы.

Ён ляціць—і цемра дол пакрыла,
сто палёў трывогу ўскаласілі.
У мяне ж адна рагатка—ліра—
дар пакутны бежанскай Расіі.

Вартаю ажыўлены і світай,
над айчынай узляцеў маёю
ён драконам з п'есы незабытай,
прагне смагу наталіць крывёю.

Ён глядзіць вакол сябе варожа,
помслівы, злапамятны і тлусты!
І наўрад ці адшукаць хто зможа
меч на злога выкармка распусты.

Дзе ні сядзе крывапівец шэры —
пакрываюцца крывёй даліны.
Прыкрасць ёсць, аднак, у ненажэры,
што дастаць не можа Украіны.

У яго імперская закваска,
ў жоўтых жорнах літасць не жыліца,
кружыцца над безданню каўказскай,
выглядае зноў, чым пажывіцца.

Кроў учуў ізноў драпежнік гадкі,
поўны злосці лютай і пагарды,
і ў яго я цэлюся з рагаткі,
як умеюць хлапчукі і барды.

**РЭХА ПУБЛІКАЦЫІ**

# ЦІ Ж ПА-СТАРОМУ Ў СТАРЫХ ДАРОГАХ?

М. Тычына ў сваім артыкуле («ЛіМ», № 4, 24 студзеня 1992 года) сцвярджаў гэта пэўна: «У Старых Дарогах — па-старому» і прыводзіў шматлікія прыклады, якія сведчаць аб тым, што ў горадзе не надта збіраюцца выконваць Закон аб мовах.

Мясцовыя ўлады гэту публікацыю заўважылі. Прынамсі, адгукнуўся на яе і пракурор Старадарожскага раёна, саветнік юстыцыі А. Мароз. У лісце на імя намесніка старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь А. Трусава ён прызнаў: згаданыя факты «сведчаць аб тым, што ў раёне не выконваюцца палажэнні арт. арт. 28, 31 Закона БССР «Аб мовах у БССР». І зрабіў адпаведныя захады: «пракуратурай раёна ўнесены прадпісанні кіраўнікам аўтапарка № 13, аўтавакзала г. Старыя Дарогі, філіяла КПП «Кінавідэапракат» аддзела культуры райвыканкома аб выпраўленні парушэнняў закона». І далей: «Па выніках праведзенай праверкі кіраўнікам указаных арганізацый зроблены афіцыйныя папярэджанні аб недапушчальнасці парушэння закона...»

Значыць, у Старых Дарогах ужо не ўсё па-старому? Як сказаць. Спадар пракурор А. Мароз выканання Закона аб мовах патрабуе ад іншых. Сам жа адказ у Камісію па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны піша па-руску! Няўжо па выслоўю: «Што дазволена Юпіцеру, то не дазволена быку».

Л-ц.

# ЦІ ЗАПАЛІТЫЗАВАНЫ «ЛіМ»?

Чытаючы «ЛіМ за 17.04.92 г., не мог не звярнуць увагу на нататку «З пасяджэння рады СП Беларусі».

Дужа не спадабалася мне фраза «Тым не менш, некаторыя ўдзельнікі гаворкі лічаць «ЛіМ» занадта палітызаваным». Па-першае: чаму па-камуністычнай формуле «некаторыя»? Гэта што, палітбюро з пагалоўнай канспіратыўнай ананімнасцю ці вольнае абмеркаванне спраў? Не трэба болей такіх штампаў, прыкра гэта. Па-другое, дык, лічу, «ЛіМ» палітызаваны настолькі, наколькі гэтага патрабуе наш час і наш стан.

На сённяшні дзень «Літаратура і мастацтва», на маю думку, **адзіная** ў Беларусі левацэнтрысцкая газета, што **паслядоўна** праводзіць **беларускую** палітыку.

За выключэннем слабых адраджэнскіх выданняў увесь астатні посткамуністычны друк бярэ актыўны ўдзел у Вялікай Балбатні, што паспяхова праводзяць і Вярхоўны Савет і ўрад. Гэтакая ж і пазіцыя радыё ды тэлебачання: калі не варожая, то здзекліва-іранічная і да нашай мовы, і да нашай незалежнасці, і да нашых спроб знайсці выйсце з прорвы. У друку практычна адсутнічаюць сур'ёзныя тэарэтычныя інтэлектуальныя артыкулы. Чытаць практычна няма чаго. Газета Вярхоўнага Савета цешыць публіку сярэднявечнымі байкамі пра коней з чалавечымі тварамі (кентаўры, значыць), пра дрэвы, што крочаць, ды іншай дробязой. А найболей не забываюць папалохаць народ цяжкасцямі жыцця, мафіяй (сваёй гадоўлі!), «безвыходнасцю» становішча. Ідзе зарганізаваны псіхалагічны тэрор супраць нашага народа! Падтэкст такі: «чым горай зараз — тым больш светлае (камуністычнае) мінулае».

Не ведаю, можа, і ўзнікае часам у супрацоўнікаў «ЛіМа» пачуццё, быццам мала літаратурна-мастацкіх публікацый, быццам зашмат «палітыкі». Прыкра, што «ЛіМ» **адзін** цягне воз нацыянальнай годнасці. Але такое жыццё: палітыка сёння — спадзяванне на заўтра. А хто яшчэ падорыць нам надзею на заўтра?

**Мікола БУСЕЛ.**
Светлагорскі раён.

# ЯКІЯ СЛОВЫ НАПІШАМ?..

## або Як адрэдагаваць «Манументальны летапіс»

КАЛІ ў кастрычніку 1990 года наша газета пісала «...неўзабаве і нам **давядзецца** распачаць рэвізію нашай «лeнініяны», ні сам аўтар артыкула «Пра нашы помнікі...», ні большасць чытачоў не думалі, што гэта пачнецца так хутка.

А пачалося 7 лістапада таго ж 1990 года. Удзельнікі памятнага антыкамуністычнага мітынгу прынеслі да помніка Леніну ля Дома ўрада пудзіла НКВДзіста, ватоўку савецкага зэка і ішыя атрыбуты сямідзесяцігадовага блукання «ленінскім шляхам».

транспартабельнае проста пачнуць красці з п'едэсталаў. Тое, што манументальнае мастацтва савецкай эпохі ўяўляе гістарычную каштоўнасць, сям-там уцямілі і дзяржаўныя дзеячы. Спадар Сабчак нават даслаў ліст уладам Віцебска з просьбаю перадаць Санкт-Пецярбургу выкананыя ў трывалых матэрыялах (бронза, граніт) помнікі Леніну Віцебскай вобласці, абяцаючы аплаціць дэмантаж і транспарціроўку.

Улады Ніжняга Ноўгарада абвясцілі аб сваім жаданні стварыць Музей мастацтва эпохі сацыялізму. У якасці галоўных экспанатаў яны бачаць рубінавыя зоркі Маскоўскага Крамля. Але малаверагодна, што Масква захоча развітацца з імі, нават пасля таго, як зоркі на вежах будуць заменены двухгаловымі арламі. Пэўна, і ў Маскве неўзабаве аформіцца музей сацыялістычнага рэалізму. Падобныя ідэі лётаюць у паветры на прасторах былой «адной шостай» і сям-там ужо рэалізуюцца.

Наступным этапам дэленінізацыі стаў леташні красавік, калі падчас страйкаў менскія рабочыя, сабраўшыся на плошчы Леніна, кідалі да помніка свае зашмальцаваныя спяцоўкі. А пасля няўдалага жнівеньскага путчу менскія гарадскія ўлады пастанавілі дэманціраваць помнік перад Домам урада. Але першым дэманціравалі не яго, а бюст «правадыра» ў зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Беларусі, а потым — бронзавыя бюсты Маркса і Леніна перад цяпер ужо былым домам ЦК, якраз напярэдадні сустрэчы лідэраў СНД.

Сёння большасць помнікаў Леніну, а таксама іншым наменклатурным бальшавікам можна лічыць асуджанымі. Рана ці позна яны будуць зняты з гарадскіх плошчаў. Прычым, у нас іх дэмантажу будуць патрабаваць ці не найгучней тыя, хто ўчора, выконваючы цэкоўскія дырэктывы, рашуча асуджаў замахі на бронзавых і гранітных монстраў, як «акты вандалізму». І гэта не дзіўна, бо партыйная наменклатура, што зараз перафарбавалася пад патрыётаў Беларусі, будаваць не здольная, а руйнаваць што-небудзь (усё адно што) — гэта калі ласка! Так яны будуць дэманстраваць сваю адданасць беларушчыне.

Калі дэленінізацыя будзе праходзіць пад кантролем учарашніх бальшавікоў, могуць быць знішчаны творы, вартыя захавання ў якасці сімвалаў камуністычнай мінуўшчыны. Ёсць і іншая небяспека. Сёння, калі прадаецца ўсё — абы долары плацілі, мастацтва «сацрэалізму» можа стаць прадметам цынічнага гандлю. Яшчэ ў той час, калі Гарбачоў падпісваў грозныя ўказы ў абарону камуністычных помнікаў, калі ў выкананне ўказаў у «гарачых кропках» СССР побач з помнікамі Леніну стаялі бронетранспарцёры з узброенымі салдатамі, — ЦК КПСС вяло перамовіны з капіталістамі аб продажы на міжнародным мастацкім аўкцыёне некалькіх помнікаў Леніну. Якія канкрэтна помнікі рыхтаваліся для продажу, невядома, але відавочна, што гэта павінны былі быць творы аўтараў кшталту Меркурава, Манізера ці Томскага.

І гэта не здзіўляе, калі ведаць, што бальшавікі, разбураючы чужыя святыні, і да ўласных ставіліся без пашаны. Летувіскія камуністы прадалі на металалом помнік Міцкевічу-Капсукасу ў Вільні, калі стала зразумела, што ўсё роўна ён будзе дэманціраваны.

Сёння на савецкую манументальную экзотыку ёсць пакупнікі. Магчыма, неўзабаве сёе-тое адносна невялікіх памераў,

7 лістапада 1990 года — пачатак дэленінізацыі Беларусі. Але пакуль што яна ідзе спантанна пад уплывам выпадковых абставін. Гэтым працэсам ніхто не кіруе, ніхто яго не арганізоўвае. Проста з інтэр'ераў грамадскіх будынкаў паступова кудысьці знікаюць выявы Леніна і іншыя атрыбуты «савецкасці». Куды падзелася велізарная галава з залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета і бюсты, што стаялі перад домам ЦК, не ведаюць нават у Міністэрстве культуры. А згаданыя творы занатаваны ў Зборы помнікаў Беларусі, што з'яўляецца іх ахоўнай граматай. Нават каб проста пераставіць іх з аднаго месца на другое, патрэбны афіцыйны запыт і афіцыйны дазвол. Між тым у дадзеных выпадках справа рабілася нецывілізавана: як і ў застойныя часы, спрацавала «тэлефоннае права».

Вырашэннем лёсу манументальнай спадчыны камунізму павінна займацца кампетэнтная камісія з навукоўцаў, мастакоў, архітэктараў. А ў складзе камісіі ці ў непасрэдным падпарадкаванні ёй магла б дзейнічаць рабочая група па стварэнні беларускага музея афіцыёзнага мастацтва (ці як там яшчэ яго назваць). На маю думку, гэта павінен быць адначасова музей і навукова-даследчы цэнтр, дзе афіцыёз (не толькі бальшавіцкі) вывучаўся б як сацыяльна-культурны феномен, а не проста як з'ява ў беларускай культуры.

Першая праблема, якая паўстане перад арганізатарамі музея афіцыёзу, гэта пытанне пра будынак музея. Дэфіцыт плошчы адчуваюць у Менску ўсе ўстановы культуры, за выключэннем, мабыць, музея Вялікай Айчыннай вайны. І мала верагодна, каб у бліжэйшы час тут нешта змянілася ў лепшы бок. Тым больш, што будынак пажадана знайсці ў цэнтральнай частцы горада, дзе «лішняй» плошчы ўвогуле няма. Магчыма, давядзецца праектаваць і будаваць пад экспазіцыю спецыяльнае памяшканне. Экспазіцыя магла б мець тры асноўныя раздзелы: «Афіцыёз у кантэксце сусветнай культуры», «Савецкі афіцыёз», «Афіцыёзнае мастацтва на Беларусі».

Уласна кажучы, элемент афіцыёзнасці ёсць у кожным мастацтве, якое адлюстроўвае дзяржаўную ідэалогію. Такім чынам, можа, давядзецца асэнсоўваць гісторыю ад егіпецкіх пірамід да крамлёўскіх зорак і статуі Свабоды. Але, можа, варта будзе засяродзіцца толькі на нашым кантыненце, на еўрапейскім мастацтве і паглыбіцца не далей XVII—XVIII стагоддзяў. Скажам, афіцыёзнае мастацтва ў Францыі ў часы Напалеона Банапарта ці Напалеона III мела сваёй мэтай падкрэсліць асаблівую, выключную ролю Францыі і французаў у еўрапейскай і сусветнай гісторыі, узняць нацыянальны дух, спрыяць велічы Францыі. Высокамастацкія ўзоры афіцыёзу дае расійская культура XIX стагоддзя. Гэта помнікі расійскім імператарам у Пецярбурзе і Маскве, іншых стратэгічных кропках імперыі, помнік Багдану Хмяльніцкаму ў Кіеве (вельмі цікавы нерэалізаваны варыянт гэтага помніка, прадстаўлены ў экспазіцыі Мастацкага музея Беларусі), «Тысячагоддзю Расіі» ў Ноўгарадзе, аздоба Ісакіеўскага сабора ў Пецярбурзе і храма Хрыста-Збаўцы ў Маскве. Тут — расійская нацыянальная ідэя, ідэя расійскага самадзяржаўя, тут афіцыёз звяртаецца да патрыятызму і патрыятызму спрыяе.

Прыблізна тое ж можна сказаць і пра мастацтва Германіі тых часоў, калі малыя германскія дзяржавы пад эгідай Прусіі групаваліся ў Германскую імперыю. І пра мастацтва Англіі, калі ў Брытанскай імперыі «не заходзіла сонца». Відаць, гэты раздзел экспазіцыі будзе складацца з рэпрадукцый, фотаздымкаў, копій жывапісных твораў, бо арыгіналаў класічнага афіцыёзу вялікіх еўрапейскіх краін у Менску, увогуле на Беларусі амаль няма, за выключэннем мастацтва імперскай Расіі.

Калі нацыя мае сваю дзяржаву, прычым дзяржаву не абы-якую, дык афіцыёзнае мастацтва працуе на нацыянальную ідэю. Гэта тое, чаго апошнія дзвесце год, з моманту страты беларускай дзяржаўнасці пасля знікнення федэратыўнай Рэчы Паспалітай, у нас не было. Беларускі афіцыёз з гэтага часу мае характар, уласцівы каланіяльнай тэрыторыі. Ён не народжаны на гэтай зямлі, а завезены ў калонію з метраполіі і мае мэтай абараніць інтарэсы метраполіі.

Раздзел «Афіцыёз у кантэксце сусветнай культуры» мог бы мець падраздзел, які апавядаў бы пра гэтую з'яву ў культуры малых еўрапейскіх народаў, якія аднавілі сваю дзяржаўнасць пасля першай сусветнай вайны ці тады ж атрымалі яе ўпершыню за ўсю сваю гісторыю.

Стагоддзі падпарадкавання больш моцным суседзям, зразумела, адбіліся ў свядомасці малых нацый. Іхні нацыянальны афіцыёз даволі часта ўяўляў сабою варыянт «кішэннага» шавінізму. Ён быў прыстасаваны галоўным чынам для ўнутраных патрэб, бо фанабэрыцца перад вялікімі дзяржавамі было проста небяспечна. Напрыклад, польскі шавінізм можа выклікаць у немца ці расіяніна толькі скептычную ўхмылку. Чэха-Славаччына магла ў сваіх межах захапляцца ўласнай гістарычнай веліччу, але — азіраючыся на Германію і на ўласных немцаў — нацыянальную меншасць. Асаблівай гаворкі патрабуе Летува. Летувісы — нашчадкі жмудзінаў, да якіх вялікія князі Літоўскія ад Міндоўга да Вітаўта ставіліся без асаблівай павагі, аддаючы Жмудзь немцам за падтрымку ў барацьбе за вялікакняскі прастол, за ўплыў у славянскай частцы дзяржавы з Вільняй, Полацкам, Наваградкам. Сёння летувісы спрабуюць перапісаць уласную гісторыю, стварыць міф, атаясаміць этнічную Летуву (Жмудзь) з гістарычнай Літвой (Беларуссю), а сапраўдных нашчадкаў ліцвінаў — беларусаў адціснуць у кут, каб іх не было бачна і чутно, каб не было з кім спрачацца за гістарычную спадчыну Вялікага княства Літоўскага. Летувіскі афіцыёзны міф цікавы тым, што супраць, здавалася б, логікі да яго з сур'ёзнасцю ставяцца вялікія дзяржавы, у прыватнасці, Расія. У Расіі папраўдзе лічаць, што малакалькасныя, эканамічна адсталыя, дрэнна ўзброеныя і, зрэшты, палітычна неўплывовыя продкі летувісаў «трымалі ў кулаку» велізарныя славянскія тэрыторыі з народам, які ў сэнсе цывілізацыі абганяў жмудзінаў на стагоддзе, а можа, і болей. Гэты феномен «пылу ў вочы» патрабуе асэнсавання і тлумачэння.

Другі раздзел — «Савецкі афіцыёз». Перыяд ад Ленінскага дэкрэту «Аб помніках рэспублікі» (1918 год) да пачатку 1992 года. У гэты час паралельна ідзе знішчэнне духоўнага патэнцыялу Расійскай імперыі і пабудова новай імперыі — Савецкай. Трэба адзначыць, што бальшавіцкая ідэя, маючы ў падмурку месіянскую праваслаўна - самадзяржаўную ідэю, а значыць і моцную мастацкую традыцыю, мала чым вартым увагі ўзбагаціла сусветную культуру. Мастацкія сродкі выяўлення ідэі «сусветнай рэвалюцыі» аказаліся надзіва прымітыўнымі.

Новай рэлігіі пад назвай «Камунізм» не атрымалася, хоць дзеля яе панавання былі знішчаны мільёны людзей. Бальшавізм так і застаўся дзяржаўнай дактрынай, але не стаў народнай верай. Не мела поспеху спроба зрабіць Маўзалей на Краснай плошчы новым «Гробам Господнім», радзіму Леніна Сімбірск — «Назарэтам», а ва ўсіх сталіцах саюзных рэспублік ды і проста буйных гарадах зрабіць месцам пакланення храмы камунізму — музеі Леніна. Роля апосталаў новай рэлігіі адводзілася наменклатурным бальшавікам «ленінскай гвардыі», роля прарокаў — ідэйным папярэднікам ленінізму, а роля святых пакутнікаў — палеглым «за ўладу Саветаў» у грамадзянскай вайне і «За Радзіму, за Сталіна» ў другой сусветнай. Каб бальшавіцкая ідэя «сусветнай рэвалюцыі» была больш зразумелай, у экспазіцыю раздзела «Савецкі афіцыёз» мела б сэнс для аналага ўключыць экспанаты, якія б апавядалі аб мастацтве гітлераўскай Германіі — люстраным адбітку нашага «сацрэалізму». І тут і там — тая ж гігантаманія, тыя ж «арыйскія» (у савецкім варыянце — «пралетарскія») тыпажы, той жа культ смерці за ідэю і жыццё выключна дзеля будучыні.

Апошні раздзел экспазіцыі датычыў бы ўжо непасрэдна Беларусі — «Беларускі афіцыёз». Гэта сталінскі ампір, каланіяльнае барока — у архітэктуры, «сацыялістычны рэалізм» — у выяўленчым мастацтве, літаратуры, тэатры. Мэта афіцыёзнага мастацтва на Беларусі — зацвярджэнне непахіснага аўтарытэту «старэйшага брата», які стварыў «навекі Саюз непарушны», русіфікацыя пад шыльдай «інтэрнацыяналізму». Тое ж самае з 1920 па 1939 гады, але ў абалонцы «Вялікай Польшчы», рабілі пілсудчыкі на землях Заходняй Беларусі.

У экспазіцыі раздзела маглі б прысутнічаць дакументы, якія б сведчылі аб насаджэнні на Беларусі ў дакастрычніцкі час расейшчыны і пальшчызны, аб скасаванні уніяцкай рэлігіі і знішчэнні яе мастацкіх здабыткаў, аб перабудове беларускіх храмаў з ярка выяўленым нацыянальна-самабытным характарам у духу «руска-візантыйскага» канона (у савецкі ж час храмы ўжо не перабудоўвалі, а проста знішчалі).

Менавіта з экспазіцыяй трэцяга (і галоўнага) раздзела будзе найбольш праблем, бо справа закранае інтарэсы тых, хто і сёння працуе ў мастацтве. Супраць музея афіцыёзу і асабліва раздзела «Беларускі афіцыёз» будуць тыя, каму давядзецца даваць адказ на пытанне: «На што ішлі народныя грошы — тысячы, мільёны рублёў, прычым ужо ў «перабудовачны» і паслячарнобыльскі час?» Супраць музея будуць майстры мастацтва, творам якіх у гэтым музеі па праву будуць адведзены асобныя залы.

Будуць у музеі асобныя залы беларускай сталініяны-ленініяны. Думаю, музей павінен мець бібліятэку, фільма- і фотатэку, «банк» дадзеных аб помніках афіцыёзу не толькі на тэрыторыі Беларускай рэспублікі, але і на этнічных беларускіх землях за яе межамі — Віленшчына, Беласточчына. Скажам, не так даўно ў Беластоку, цэнтры ваяводства з пераважна беларускім насельніцтвам, дзе дагэтуль няма помніка Кастусю Каліноўскаму (а гэта яго радзіма), пастаўлены помнік дыктатару Пілсудскаму — польскаму шавіністу і ворагу беларушчыны, і помнік ваякам Арміі Краёвай, якая ажыццяўляла на «крэсах» генацыд беларусаў. Цікава, што менскія газеты пісалі аб гэтым як аб праяве «дэмакратызацыі грамадскага жыцця Польшчы», сведчанні «добрых перамен, характэрных для сённяшняй Польшчы».

У будынку музея змогуць размясціцца адносна невялікія экспанаты, бібліятэка і архіў. Але каб мець цэльную карціну гісторыі афіцыёзу на Беларусі, неабходна бачыць творы «манументальнай прапаганды» ў натуральную велічыню. Значыць, музей не абыдзецца без філіяла — даволі вялікага поля, дзе можна было б размясціць шэрагі бетонных, гранітных і бронзавых «ленінаў», «калінiных», «дзяржынскіх», «мяснікоўых»... Кампазіцыйным цэнтрам гэтага «поля цудаў» стала б бронзавая скульптура, якая калісь стаяла ў цэнтры Менска. У свой час у менскіх бальшавікоў не паднялася рука адправіць «бацьку роднага» ў «пекла» — на пераплаўку. Нібыта і зараз ляжыць Сталін у разабраным выглядзе на тэрыторыі адной аўтабазы.

У спецыяльным павільёне «поля цудаў» можна экспанаваць фрагменты манументальнага аздаблення Дома ўрада — бюст Леніна з залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета і рэльефы на камуністычна-рэвалюцыйныя тэмы, зробленыя яшчэ ў 30-я гады. Па меры дэбальшавізацыі і дэленінізацыі Беларусі «поле цудаў» можна будзе папаўняць новымі монстрамі. Частку ж іх нават можна будзе прадаць на свабодна канверсуемую валюту. Пакупнікі знойдуцца, упэўнены.

Музей афіцыёзу патрэбны не ў малой ступені для таго, каб захаваць у памяці нацыі эпоху таталітарызму, каб ні ў кога і ніколі не ўзнікла спакусы стварыць для новых пакаленняў казку аб шчаслівым жыцці пры «развітым сацыялізме».

Зусім неабавязкова ўсе творы, дзе прысутнічае Ленін і савецкая сімволіка (пяцікутныя чырвоныя зоркі, серп-молат і інш.), цягнуць у музей афіцыёзу. Такая ўжо гісторыя нашага мастацтва, што на працягу амаль сямідзесяці гадоў тэма была сама па сабе, а фармальна-стылістычныя пошукі — самі па сабе. Мастак быў вымушаны прымаць гэтую ўмоўнасць, выконваць так званы «сацыяльны заказ», у межах зацверджанай зверху тэмы спрабаваць рабіць мастацтва. Часам удавалася. Як, напрыклад, Аляксандру Кішчанку ў ягоных манументальных габеленах, што ўпрыгожваюць Беларускі тэатр оперы і балета і інтэр'еры былога дома ЦК КПБ. Мне падаецца, што гэтыя творы варта захаваць на сваіх месцах. А што датычыць канкрэтна двух габеленаў у будынку парламента, дзе ў адным дамінуе выява Леніна, а ў другім—герб СССР, дык яны могуць быць дапоўнены яшчэ двума-трыма габеленамі, дзе будзе зусім іншая сімволіка. У такім разе згаданыя габелены стануць толькі часткай вялікага цыкла, адлюстраваннем аднаго з эпізодаў гісторыі Беларусі ў формах, уласцівых таму часу. Так, быў час, калі не ўсе, дык многія не ўяўлялі, як гэта жыць без СССР, бязмежна ганарыліся сваёй вялікай і неабсяжнай краінай, былі ўпэўнены ў вернасці «ленінскага шляху»... Ды, зрэшты, БССР у складзе Савецкага Саюза — этап на шляху да Рэспублікі Беларусь, да сапраўднай незалежнасці. Так, БССР — гэта не БНР, але і не губерня РСФСР ці ваяводства Польшчы. Будзем з разуменнем ставіцца да гэтага этапа нашай гісторыі. І таму хай таленавітыя творы савецкага часу застаюцца на сваіх месцах у музейных экспазіцыях і ў інтэр'ерах грамадскіх будынкаў. Не будзем браць прыклад з нашых суседзяў-палякаў, якія, дэманструючы сваю прыхільнасць заходняй цывілізацыі, метадычна знішчаюць цэлы пласт сваёй нацыянальнай культуры (40—70-х гг.), усё, што мае хоць ускоснае дачыненне да сацыялістычнага ладу і камуністычнай ідэі. Дарэчы, польскі шавінізм пад выглядам аднаўлення гістарычнай справядлівасці зацвярджаецца і на Беларусі. Не так даўно ў Вілейцы пастаўлены помнік легіянерам Пілсудскага (яны, маўляў, ваявалі супраць бальшавікоў), інтэрвентам і акупантам — тым, хто знішчыў у хаўрусе з маскоўскімі камуністамі маладую Беларускую Народную Рэспубліку. А ў Воранаўскім раёне (Наваградчына) — помнік жаўнерам Арміі Краёвай: яны, маўляў, пакутнікі, бо загінулі ад куль НКВД. Дык, можа, такім чынам апраўдаць і гітлераўскіх карнікаў і іхніх памагатых з ліку мясцовых, якім жыццё спыніла куля энкавэдзіста? Можа, нават ім за гэта помнікі паставіць?

Цікава, зноў жа: хто даваў дазвол на будаўніцтва прыгаданых помнікаў? Гэта рабілася з ведама мясцовых уладаў і Вярхоўнага Савета ці «партызанскім» спосабам? У кожным выпадку названым помнікам — месца ў беларускім музеі афіцыёзу, і рашэнне аб іх дэмантажы павінна быць прынята неадкладна.

Помнікі акаўцам і іншым пілсудчыкам ставяцца на Беларусі ў той час, як у самой Польшчы знішчаюцца манументы Савецкай Арміі. Тлумачаць гэта тым, што Савецкая Армія прынесла ў Польшчу ненавісны палякам сацыялізм. Неяк забываецца, што савецкі салдат найперш выратаваў Польшчу ад генацыду — прыклад сцёртай гітлераўцамі ў попел Варшавы гаворыць, які лёс чакаў усю польскую нацыю. Воін-вызваліцель не адказвае за палітыку Сталіна. Савецкі салдат не рабаваў польскага селяніна, не паліў ягонай хаты і не гвалтаваў ягонай жонкі — у адрозненне ад акаўцаў, якія паводзілі сябе на Беларусі менавіта так. Руйнуючы савецкія помнікі, палякі не надта азіраюцца на Расію, Беларусь, іншыя краіны, сыны якіх у 1944—1945 гадах клалі галовы ў барацьбе з фашызмам, а па сутнасці за гістарычную перспектыву Польшчы. Можа, і нам не трэба быць надта далікатнымі ў адносінах да польскіх знакаў на нашай зямлі?

І апошняе... Дэмантаж манументальных атрыбутаў адыходзячай эпохі зойме шмат часу і будзе вымагаць немалых сродкаў. Але гэта толькі частка вялікай працы. Выкрасліць адносна лёгка, але што мы напішам на ачышчаным ад кляксы аркушы, якія словы? У праграме Адраджэння Беларусі на першым месцы павінна быць усё ж такі стварэнне. Таму ўсур'ёз узяўшыся за «рэдагаванне» манументальнага летапісу нашай мінуўшчыны, мы павінны найперш вызначыць, якой мы бачым Беларусь у будучым.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# КАГО РАТАВАЦЬ?

**Аднойчы маю ўвагу прыцягнуў нумар газеты «Зорька» зваротам яе рэдактаркі Эміліі Луканскай «Зорька» просит помощи». Прачытаў я яго і падумаў: «Нічога ў прыродзе няма вечнага»! Сёння наша Бацькаўшчына — незалежная дзяржава, яе дзяржаўная мова — беларуская, на якой, дарэчы, выходзіць і газета для школьнікаў. Выходзіць з 1929 года пад назваю «Піянер Беларусі». Мае старэйшыя сястра і брат расказвалі мне, што ў гады іхняга дзяцінства, а яно было перад вайною, і яны, і іхнія сябры па вучобе, усе выпісвалі і чыталі гэтую газету. І вось русіфікатарам захацелася заснаваць другую дзіцячую газету, але ўжо на рускай мове, так бы мовіць, паднесці (па словах Э. Луканскай са звароту) «Царский... действительно материнский подарок республики своим маленьким гражданам». Заўважу, што такі ж самы «царский, материнский» падарунак» у 1938 годзе — у самы росквіт рэпрэсій супраць беларушчыны — быў зроблены і камсамольцам у выглядзе газеты «Знамя юности», якая зрабіла (разам з 4 іншымі: «Советской Белоруссией», «Сельской газетой» — была яна і «Колхозной правдой», а зараз перафарбавалася ў «Белорусскую ниву», «Физкультурником Белоруссии», «Зорькой») сваю русіфікатарскую справу: сёння газеты «Чырвоная змена», «Піянер Беларусі» маюць мізэрныя тыражы. А тыя самыя «маленькія грамадзяне», якім у 1945 годзе «падаравалі» рускамоўную «Зорьку», выраслі, дзякуючы ёй (і не толькі ей), людзьмі, якія пазбаўлены пачуцця ўласнай годнасці, пазбаўлены магчымасці вольна карыстацца роднай мовай. Іх так выхоўвалі: спачатку «Зорька», потым «Знамя юности», а потым «Советская Белоруссия», якая, дарэчы, ніяк не зменіць сваю абсурдную для Беларусі назву...**

**Э. Луканская ў сваім звароце піша: «...Кто согласится стать учредителем газеты, которая хотя и выходит на русском языке, но, поверьте, — не враг белорусским ребятам. Мне подумалось, стань учредителем «Зорьки» Совмин, это было бы в данной ситуации не меньшим подарком детям, чем открытие ее в трудном сорок пятом». Мяркую, што з функцыямі выхавання ў дзяцей павагі да Бацькаўшчыны добра справіцца і беларускамоўны «Піянер Беларусі».**

**У законе аб мовах Рэспублікі Беларусь гаворыцца аб паступовым пераводзе газет і часопісаў рэспублікі на беларускую мову. Прайшло 2 гады. Што змянілася? Назавіце хоць адну рускамоўную газету ці часопіс, якія сталі беларускамоўнымі? Няма такіх.**

**Ратаваць сёння трэба нацыянальныя выданні, якія працуюць на ніве Адраджэння.**

**Пятрусь КАПЧЫК,**
**філолаг.**

## АБ'ЯВА



**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю АСІПЕНКУ ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю брата Васіля.**

**Праўленне Беллітфонду выказвае глыбокае спачуванне члену праўлення Алесю АСІПЕНКУ ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю брата Васіля.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Уладзіміру ГЛУШАКОВУ з прычыны напаткаўшага яго гора — смерцю маці.**

**Беллітфонд выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму ўрачу пісьменніцкай паліклінікі М. Д. ЛАДУЦЕНКУ ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю бацькі.**



*Мартыралог Беларусі: імёны і факты*

# ДВА ЛЁСЫ

**Даўно, калі я скончыў вучобу і станавіўся на свае ногі, давялося мне наймаць невялічкі пакойчык па Лагойскім тракце ў добрых людзей Каржанеўскіх — Барыса Віктаравіча і Рэгіны Іосіфаўны. Яны мелі сваю хату, у іх было двое яшчэ невялікіх дзяцей—дзяўчынка і хлопчык, з імі жыла яшчэ бабка Паўліна. А пра іх бацькоў я потым пачуў сумную гісторыю, пра якую ў той час гаварылі шэптам. Прайшлі гады—і цяпер ужо можна пра гэта гаварыць, і нават пісаць. Каб людзі ведалі, каб старое не паўтарылася ніколі.**

**Уладзімір ДАМАШЭВІЧ.**

## Расказ Рэгіны Іосіфаўны:

Маё дзявочае прозвішча — Кудрэвіч. Мае бацькі — Іосіф Рыгоравіч і Леакадзія Мельхіёраўна жылі на Лагойскім тракце. Бацька працаваў кацельшчыкам - кляпальшчыкам у чыгуначным дэпо, а матка была хатняю гаспадыняй, умела шыць на машынцы.

Ноччу 7 чэрвеня 1937 года да нас прыехаў «чорны воран». Зрабілі вобыск, усё перавярнулі і параскідалі, матрац пада мною калолі штыкамі. Бацьку забралі, а ў хаце застаўся яшчэ адзін энкавэдзіст з вінтоўкаю. Чаго—ніхто не ведаў. Аказваецца, чакаў другога заходу: машына хутка вярнулася, і забралі яшчэ і матку.

Дзяўчаты - кватаранткі, якія ў нас тады жылі, потым расказвалі, што калі маму вялі да машыны, яна сама сабе смялася. Ці не кранулася розумам з гора...

Мне тады было 11 гадоў, я расла хваравітая і нервовая. А тут такое гора звалілася на маю дзіцячую галаву: засталася адна!

Прыходзіла толькі бабка Паўліна з Баравога, што пад Мінскам, яна там жыла, мела сваю гаспадарку.

А ў нашай хаце пасяліўся нейкі Марцінкевіч, які ажаніўся ў той час з мамінаю пляменніцай, якая ў нас была на кватэры. Праз пэўны час стала вядома, што гэта сам Марцінкевіч данёс на маіх бацькоў. Неяк п'яны ён выхваляўся ў кампаніі, што гэта ён заклаў Кудрэвічаў. «А за што ж ты іх?» — пыталіся здзіўленыя людзі. «За хату», — адказваў ён, нібы мы забралі ў яго хату, а ён цяпер хоча яе вярнуць.

Цяпер ён тут жыў і паводзіў сябе як гаспадар, крычаў і нават біў мяне абы за што. Я была ў іх сям'і за нянькy, за служанку, яшчэ трэба было хадзіць у школу.

Зайшла раз бабка Паўліна, а я сяджу з дзіцем на руках і ем рэдкую капусту, у якой ляжыць вялізная голая костка.

Бабка падзівілася ды выгаварыла Марцінкевічавай жонцы, што так дрэнна глядзіць беднае дзіця.

Марцінкевіч гэтага не ўзлюбіў, накінуўся потым на мяне.

Па гэтай прычыне ці не, але ў хуткім часе мяне выклікалі ў энкавэдэ на вуліцы Урыцкага. Там нейкі сярдзіты начальнік крычаў на мяне, біў кулаком па стале і пагражаў, што калі я буду яшчэ сустракацца з бабкаю, то апынуся там, дзе і мае бацькі.

Я без памяці выскачыла на вуліцу, дзе мяне чакала бабка Паўліна, якая прывяла мяне сюды, але я кінулася прэч і пабегла ад яе — пагрозу начальніка я ўспрыняла сур'ёзна.

У час нямецкай акупацыі Марцінкевічы ўцяклі ў вёску, відаць, пабаяліся, што ім могуць нагадаць іхнія грахі (ён працаваў экспедытарам пры энкавэдэ). Некаторыя суседзі падгаворвалі мяне, каб я заявіла на Марцінкевіча, але бабка Паўліна не дазволіла. «Не бяры грэх на душу, дзіцятка, яго Бог і так пакарае».

Як у ваду глядзела бабка Паўліна. Праз гадоў колькі пасля вайны зайшла да нас Маня Марцінкевічава — не пазнаць, уся чорная, худая, як шкілет. Кінулася мне на шыю, загаласіла, а потым стала расказваць пра сваё гора: у іх сям'і дзве смерці адна за адной. Памерла ад сухотаў дарослая дачка, а за ёю і другая, сямігадовая, была калека, не магла хадзіць.

Вось і пакараў іх Бог, як прадракала бабка Паўліна. Яна сама таксама была нешчаслівая: мела шасцярых дзяцей, а дажывала свой век з унучкаю — са мною. Рэабілітавалі бацькоў пасля смерці Сталіна. Але хіба мне стала ад гэтага лягчэй? Я і так ведала, што яны ні ў чым не вінаваты.

## Расказ Барыса Віктаравіча:

Я таксама з рэпрэсіраванай сям'і, але ў нас не было так жорстка, як у маёй жонкі Рэгіны. У кожнага сваё, ці кожнаму сваё, як сказаў нехта з рымлянаў.

Мой бацька, Віктар Віктаравіч Каржанеўскі, нарадзіўся ў Мінску. Вучыўся потым у Маскве і ў 1906 годзе скончыў Вышэйшае тэхнічнае вучылішча імя імператрыцы Кацярыны II (цяпер імя Баўмана). Працаваў на Луганскім паравозабудаўнічым заводзе. Калі пачалася вайна, у чыне прапаршчыка трапіў на фронт, быў цяжка паранены. Пасля шпіталю быў накіраваны на Казанскі парахавы завод. Затым працаваў у Іркуцку на будаўніцтве чыгуначнага маста. У 1921 годзе там у Іркуцку нарадзіўся і я.

Праз год мы вярнуліся на радзіму. Бацька стаў працаваць інжынерам - цеплаэнергетыкам, пасля быў у Дзяржплане БССР, адначасова выкладаў у Лесатэхнічным інстытуце. Усё было добра. І вось раптам 4 снежня 1930 года бацьку арыштавалі. Мне тады было 11 гадоў. У тую ноч разам з бацькам узялі вялікую групу інтэлігенцыі ў Мінску—інжынераў, урачоў, выкладчыкаў. Помню дасюль прозвішчы: Сасноўскі, Краўзе, Пінержэ, Вансецкі, Ленц, Масткоў, Куфман, Рыўкін, Каплан... Іх усіх абвінавацілі ў прыналежнасці да прампартыі («Паралельная» «Шахцінская справа»).

Расстрэл бацьку замянілі дзесяццю гадамі.

Яго вызвалілі роўна праз дзесяць гадоў, 4 снежня 1940 года.

Уцалеў ён мо таму, што працаваў па спецыяльнасці. У родны Мінск вярнуцца не дазволілі. Ён уладкаваўся ў Гомелі на галантарэйнай фабрыцы.

У вайну фабрыку эвакуіравалі ў Чыстопаль. Шылі вопратку для арміі, матка таксама была разам з бацькам.

А ў мяне пачынаўся свой лёс. Перад самай вайною, 4 чэрвеня 1941 года, мяне ўзялі ў армію. Але, як сына «ворага народа», накіравалі не ў кадравую, а ў будбатальён, які размяшчаўся ў Зэльве.

Як толькі пачалася вайна, нас, будаўнікоў, прыпісалі да страявой вайсковай часці, абмундзіравалі і выдалі зброю.

Тут жа пешым строем нас кінулі ў кірунку Брэста.

Але было позна. Адтуль ужо ўсе адступалі. Мы таксама рушылі на Усход. Траплялі пад бамбёжкі. На пераправе праз Шчару быў лёгка паранены ў нагу дробнымі асколкамі бомбы. Даволі арганізавана, хоць і без вышэйшых камандзіраў, мы дайшлі ажно да Чэрвеня. На пераправе праз Бярэзіну я трапіў у палон.

Апынуўся спачатку ў Славакіі, а потым у Чэхіі, у Судэтах, працаваў на шахтах па здабычы графіту.

Лішне гаварыць, што жыццё было нялёгкае.

Пасля вызвалення яшчэ некалькі гадоў праслужыў у арміі, у будаўнічым батальёне ў Кіеве.

Вярнуўся ў Мінск у 1947 годзе. Хутка ажаніўся з Рэгінай, вучыўся ў энергатэхнікуме, потым выйшла так, што працаваў разам з бацькам у Рамналэнерга на Багдана Хмяльніцкага...

Вось такая кароткая біяграфічная даведка пра «ворага народа» і яго сына.

Лічу, што нам абодвум пашэнціла — магло быць і горш. А па дакументах я нават не лічыўся ўдзельнікам вайны. Дзіўна, яшчэ і як. Бацька быў рэабілітаваны, а я, выходзіць, яшчэ не.

# ЗА ШТО?

У 20-х гадах савецка-польская мяжа праходзіла недалёка ад вёскі Манылы (зараз Сярэдняе) Мінскага раёна. Жылі мы тады побач з граніцай на хутары. Жылі бедна. Шмат хто з землякоў у той час употай хадзіў на польскі бок — па мануфактуру. Паспрабаваў і я перайсці мяжу... У 1927 г. хтосьці данёс аб гэтым у савецкую камендатуру, якая знаходзілася побач з вёскай Манылы.

Мяне арыштавалі і пасадзілі спачатку ў Заслаўскую турму. На допытах білі, пыталіся, чый я шпіён, з кім звязаны за мяжой. Так цягнулася два тыдні. Што я мог ім адказаць! Палітыкай я ніколі не цікавіўся, ды й непісьменны быў.

Затым мяне перавялі ў ОГПУ г. Мінска, дзе допыты працягваліся яшчэ амаль тры тыдні. А прыкладна праз месяц усіх нас, арыштаваных, сабралі, пагрузілі ў таварняк і адправілі па этапе. Перасыльнымі пунктамі былі Орша — Віцебск—Ленінград (Прыбалтыйская турма). Неўзабаве адсюль па чыгунцы мяне павезлі далей, у лагер Кем-Салаўкі, дзе я ўпершыню пачуў: «Тут улада не савецкая, а салавецкая».

Глыбокай восенню на параходзе перавезлі мяне на Салаўкі, дзе назвалі тэрмін зняволення — 5 гадоў.

Спачатку мяне накіравалі ў 13-ю роту, што знаходзілася недалёка ад Салавецкага крамля. Тут я сутыкнуўся з ротнымі і ўзводнымі камандзірамі, якія абыходзіліся з намі, як з быдлам.

Праз некаторы час нас, маладых хлапцоў з 13-й роты, паслалі на лесанарыхтоўкі. Помню, па вузкакалейцы маленькі паравозік «кукушка» прывёз нас да месца работы ў раёне Перд-Возера. Нас было 150 чалавек. Пасялілі ў халодных летніх бараках, выдалі пілы і сякеры. Мы самі рабілі санкі і, як коні, на сабе цягалі дровы на бераг возера.

Начальнікам лесанарыхтоўкі быў Ялохін. Жыць было вельмі цяжка. Хлеба выдавалі толькі па тры фунты, замест грошай давалі боны. На работу нас падымалі палкамі, бо зморанае цела не магло адпачыць за ноч. Кожнаму была вызначана пэўная штодзённая норма — нарыхтаваць тры аршыны дроў. Тых, хто не выконваў яе, чакалі цяжкія пакаранні: адных распраналі дагала і выганялі на мароз пад прыглядам вартавога, другіх адпраўлялі на Сякерную гару (там калісьці быў манастыр і маяк) або Анзерскі востраў, дзе з мора дзьмуў вецер, ад якога гінулі людзі. Некаторыя, слабейшыя здароўем, самі сабе адсякалі рукі, каб захаваць жыццё.

На Перд-Возеры быў маленькі паравы катэр, на якім перавозілі людзей, а таксама дровы для ацяплення Салавецкага крамля. На гэтым катэры давялося мне папрацаваць качагарам. Успамінаецца 1929 год, калі да нас на Салаўкі прыехаў М. Горкі. На гэтым катэры мы вазілі яго па азёрах у суправаджэнні якойсьці жанчыны. М. Горкі знаёміўся з умовамі жыцця арыштантаў, пабываў ён і на Сякернай гары.

І сёння стаяць у мяне ў вачах пакуты многіх людзей, якіх нам прыходзілася перавозіць да вузкакалейкі. Іх пагружалі на баржу голых, босых, пасінелых ад холаду, асуджаных на павольную смерць.

У 1930 г. мяне перавялі на работу на аэрадром, камендантам якога быў Бекман. Начальнікам паветраных ліній Кем-Салаўкі быў Кавалеўскі Леў Уладзіслававіч, які мне запомніўся як чалавек больш чулы, спагадлівы. У яго быў вялікі дом, 8 сабак, конь — і за гэтай гаспадаркай я павінен быў глядзець. Калі прыязджала якая-небудзь камісія з Масквы, наладжвалі шумнае паляванне, рыбалку.

Помніцца, у 1930 г. прыехала камісія ОГПУ з Масквы з 8 чалавек. Камісія гэта была надзелена вялікімі паўнамоцтвамі, уключаючы права скарачэння тэрмінаў і вызвалення людзей. (Да гэтага часу за мяжой выйшла кніга «Востраў смерці і пытак», ды й па іншых каналах да Масквы даходзілі чуткі аб здзеках над зняволенымі на Салаўках). Члены камісіі распытвалі зняволеных і карнікаў. Вінаватых расстрэльвалі на месцы.

У 1931 г. мяне перавялі пад Ленінград на нарыхтоўку дроў. У хуткім часе мяне адпусцілі дамоў, але я не меў права жыць нават у сваёй вобласці. Працаваў у Бабруйску, але напярэдадні вайны зноў быў арыштаваны і высланы на Поўнач, у Архангельск. Прычыны арышту мне невядомыя. Мяркую, што гэта вынік першай высылкі. Прыходзілася і на гэты раз нялёгка: голад, холад, здзекі. Каб не памерці з голаду, даводзілася грызці сырыя конскія капыты, лавіць варон.

Так у турмах і высылках, не ведаючы за што, правёў я лепшыя гады жыцця.

**Іосіф КАСПЯРОВІЧ.**





Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

Нумар падпісаны ў друк 30-04-92 г.

Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.

Рэдакцыйная калегія:

Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЁДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.

Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.

Індэкс 63856
Тыраж 18068

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12